ББК 85.113 (2Б) 1
Л19
УДК 726.2 (=943.21) (476)

Р э д а к т а р
доктар гістарычных навук
М. Ф. Піліпенка



Лакотка А. І.
Бераг вандраванняў, ці Адкуль у Беларусі мячэці.— Мн.: Навука і тэхніка, 1994.— 143 с.: іл.
ISBN 5-343-01454-2.

Кніга прысвечана культурнай спадчыне беларускіх татар. Яны праз стагоддзі пранеслі пачуццё і ўсведамленне сваёй супольнасці і сёння захоўваюць звычаі і нормы традыцыйнага грамадскага ўкладу.

Адрасавана краязнаўцам, мастацтвазнаўцам, рэстаўратарам, этнографам.

85.113 (2Б) I

ISBN 5-343-01454-2

Чалавецтва — гэта народы, і ў кожнага народа свой лёс. Лёс — паняцце гістарычнае, якое мае вымярэнне ў прасторы і часе. Калі гаварыць пра час — гэта эвалюцыя этнічных супольнасцей: плямёнаў, народнасцей, нацый. Калі пра прастору — гэта рух народаў у межах рэгіёна, кантынента і нават між кантынентамі. У гэтым руху на гістарычнай адлегласці бачны пэўныя заканамернасці. Так, калісьці на нашу зямлю прыйшлі плямёны, якія мы завём індаеўрапейскімі. Яны пакінулі ў зямлі памяць пра сябе на месцах старажытных стаянак. Некалькімі гістарычнымі эпохамі пазней пакінулі на зямлі сляды тыя, каго мы называем мілаградцамі і зарубінцамі, плямёнамі шнуравой ці штрыхавой керамікі. Рухаліся на поўнач балты. Нарэшце, прыйшлі славяне. Як тут, сапраўды, не пераканацца ў справядлівасці аксіёмы: жыццё — гэта вечны рух.

Але рух — гэта паняцце філасофскае. Рухам народаў кіравалі аб'ектыўныя ўмовы і практычныя патрэбы.

На пачатку XIII стагоддзя спакой народаў Еўразіі быў парушаны. З бяскрайніх стэпаў на поўдзень ад Амура, з берагоў блакітнага Керулену і з пяскоў пустыні Гобі рушыў на захад ваяўнічы і бязлітасны народ. На вынослівых, невялікіх касматых конях імчалі смуглявыя з раскосымі вачыма воіны, падпарадкоўваючыся волі куміра, патрасальніка сусвету — вялікага кагана. Яго дзевяціхвостыя штандары ўжо лунал над сценамі палацаў кітайскіх імператараў. Жах, роспач і пакуты абрушыліся на краіны Сярэдняй Азіі. Чырвонабароды біч нябёсаў (так спявалі пра Чынгісхана ў сваіх песнях манголы) разрабаваў і зруйнаваў пабудаваныя за тысячагоддзі гарады. Тысячы людзей загінулі, страцілі прытулак,

трапілі ў рабства і рушылі з полчышчамі заваёўнікаў на захад.

Перад качэўнікамі адкрывалася дарога да невядомых і загадкавых краін, якія знаходзіліся там, дзе заходзіла сонца. Вялікі каган дае даручэнне знакамітым палкаводцам Джэбэ і Субэдэю накіравацца да Лукамор'я, у кіпчакскія стэпы. Гэта была стратэгічная разведка з далёкім разлікам. У 1215 годзе адбылася бітва на Калцы, якая, як вядома, скончылася пірам на касцях князёў Кіеўскай Русі. Але манголы нечакана зніклі, і пра іх паступова пачалі забываць.

Запаветную мару вялікага кагана — абмыць капыты сваіх коней у хвалях апошняга мора (пра гэта спяваецца ў старадаўнім гімне манголаў) — вырашыў ажыццявіць яго ўладарны ўнук Батухан. І вось ужо полчышчы заваёўнікаў, да якіх далучыліся тысячы прагнучых лёгкай здабычы жыхароў са зруйнаваных краін Сярэдняй Азіі, уздымаюць клубы пылу, агінаючы паўднёвыя адрогі Уральскіх гор. Гэтую частку мяжы між Еўропай і Азіяй некалі называлі варотамі народаў. Мангольскі аркан узвіўся над Еўропай.

Разрабаваўшы качэўі кіпчакоў і гонячы іх на захад, Батухан наблізіўся да земляў Старажытнай Русі. Мужна і самаадданa змагаліся з бязлітасным і прагным ворагам разанцы і ўладзімірцы, суздальцы і пераяслаўцы. Батухан і суправаджаючыя яго чынгісіды дзівіліся храбрасці і стойкасці воінаў-русаў. Не аднойчы іх ставілі ў прыклад багатурам і наёнам, кажучы пры гэтым: «Вось як трэба абараняць родны улус». Сур'ёзнай перашкодай для імклівай конніцы былі дрымучыя лясы і багністыя балоты. Але драўляныя ўмацаванні старажытнарускіх гарадоў былі лёгкай здабычай агню.

Неўзабаве ваяўнічы хан накіраваўся ў бок Дняпра, да сцен Кіева. Красу і дзіва Усходняй Еўропы спасціг той жа лёс, і конніца заваёўнікаў шырокай лавінай пакацілася далей на захад. І вось тут нечакана нецярплівыя захоп-

Нікі ўбачылі размешчаныя на крутых пагорках, у месцах зліцця рэк, мураваныя замкі. Агонь ім быў не страшны, а сценабітныя машыны з кітайскімі інжынерамі з-за вялікай колькасці рэк і ручаёў недзе безнадзейна адсталі. Імклівыя набегі, нібыта марскія хвалі, разбіваліся аб непрыступныя муры. На некалькі месяцаў прыйшлося затрымацца каля Дубны, замак Арэшак у Галіччыне ўвогуле вымушаны былі абмінуць і ісці далей. Не лепшы лёс спаткаў пад Сандамірам і Кракавам. Заходнія краіны аказвалі ўпартае супраціўленне.

Рашаючыя падзеі адбыліся на зямлі венграў. Сюды яшчэ да падыходу манголаў прыехалі прадстаўнікі кіпчакскіх плямёнаў, на чале з ханам Кацянам, шукаць апошняга ратунку ў венгерскага караля Белу. Перагаворы зацягнуліся, і, калі мангольскія бунчукі вецер пачаў развяваць над венгерскімі дарогамі, пры двары караля зразумелі, што Кацян — непажаданы госць. На адным з прыёмаў ён быў па-здрадніцку забіты. Але караля Белу гэтая здрада ўжо выратаваць не магла. Пад сцены Буды і Пешту прыйшоў сам Батухан. Аб'яднаныя войскі венграў і некаторых іншых еўрапейскіх краін былі дашчэнту разбіты. Шлях у Заходнюю Еўропу стаў адкрытым.

Вячэрнія краіны ахапіла паніка. Папскія нунцыі распавядалі аб боскай кары за зямныя грахі. Прыпаміналі, што і раней бог караў, насылаючы сарацынаў ці натоўпы готаў, вандалаў Гензерыха, остготаў Аларыха, вестготаў Тацілы. Пра апошніх напамінаў мураваны маўзалей у Равене. Канчаўся доўгі ўспамін аб усёмагутным Рыме — раманская эпоха. У змроку варварскіх набегаў пачыналася раніца готыкі. У той час як рымскі папа ліхаманкава абдумваў з каралямі, як знайсці паратунак, запыленыя мангольскія коні ўжо мылі капыты ў хвалях Адрыятыкі, а Батухан хмура глядзеў з пагорка на сілуэты стромкіх дахаў Трыеста і распытваў злоўленых мясцовых небарак (хто не паспеў уцячы або схавац-

ца) пра дарогі на Рым. Але ў працяглых і жорсткіх баях загінулі многія знакамітыя багатуры і воі, штурмы і асады знясілілі войска. Невясёлыя думкі абуялі Батухана. Не толькі ён, але і яго загартаваныя воіны адчувалі смутак па далёкай, даўно пакінутай радзіме. З таго часу, як мінулі вароты народаў, да войска далучылася шмат кіпчакоў і іншага люду. Жалезная дысцыпліна слабела, дзялёжка здабычы, марадзёрства былі прычынай штодзённых сутычак, сварак і боек. Падчас доўгіх асад чынгісіды ўсё часцей вялі гутаркі аб вяртанні ў вызначаныя яшчэ іх усёмагутным дзедам улусы. Для мангольскага войска залогам поспеху была імклівасць, але яна была ў значнай меры страчана.

І ўсё ж не гэтыя прычыны сталі паратункам для вячэрніх краін. Прыйшоў паратунак нечакана і зусім з іншага боку. Аднойчы Батухану слуга-нукер прынёс паведамленне, што рускі князь (коназ) Іскандэр (Аляксандр), што ўладарыць у Ноўгарадзе, выступіў са сваёю дружынаю супраць закаваных у жалеза нямецкіх рыцараў, разбіў іх і пагнаў. Батухан адразу прыпомніў, што ў свой час ён не дайшоў з Субэдэем да Ноўгарада ўсяго тры конныя пераходы (каля ста вёрст). Спынілі веснавыя багністыя балоты... Цяпер, пасля перамогі над ворагам, коназ Іскандэр мае не толькі моцнае войска, але і абудзіць у запалоханых нашэсцем людзей веру і ўпэўненасць у перамозе. А што калі Іскандэр выйдзе да вярхоўяў ракі Ітыль (Волга), пераправіць сюды лодкі-байдакі, пабудуе плыты і рушыць па рацэ на поўдзень, да стэпаў? Стаўшы з войскам там, ён перакрые ўнуку вялікага кагана шлях да далёкай радзімы. Хан загадаў склікаць чынгісідаў (некаторыя, парушыўшы воінскую дысцыпліну, самавольна адправіліся на радзіму, атрымаўшы вестку пра смерць дзядзькі Бату, вялікага кагана Угэдэя, каб прыняць удзел у абранні новага ўладыкі манголаў), начальнікаў туменаў (дзесяцітысячны атрад), тысяцкіх і соцкіх, наёнаў, праваdыроў іншаплямённых атрадаў.

Назаўтра ён убачыў стомленыя і абыякавыя твары кіраўнікоў войска. Што мусіць ім сказаць Батухан? Хутчэй за ўсё новы загад ісці наперад. Позіркі іх не выказвалі колішняга энтузіязму. Батухан адразу гэта адчуў і канчаткова пераканаўся ў неабходнасці прыняцця адзінага рашэння: канец паходу!

Батухан не стаў вяртацца да берагоў блакітнага Керулену. Там яго не чакалі. Прэтэндэнтаў на прастол вялікага кагана ўсіх манголаў было шмат, і сапернічаць з імі ён лічыў не вартым гонару воіна. Бату вырашыў стварыць сваю дзяржаву — сярод стэпаў, каля нізоўяў Ітыля. Так узнікла Залатая Арда.

Еўропа пераводзіла дух. Панічны страх саступаў месца цікавасці да ваяўнічага і невядомага народа, імя якога — мангола-татары — нават асацыіравалася з грэчаскім тартар — падземная бездань, царства мёртвых. Папскі прастол ачуняў, пачало складвацца паразуменне, што ад адносін з качэўнікамі будзе істотна залежаць палітыка на ўсходзе Еўропы. У 1245 годзе ў далёкі Каракорум адпраўляецца пасланец папы Інакенція IV італьянец Джавані Дэль Плана Каршні. А ў 1253—1255 гадах робіць сваё падарожжа ў Манголію пасланец Людовіка IX фламандзец Гільём дэ Рубрук. Іх лёс будзе шчаслівы. Яны пройдуць праз Еўропу і Азію, вернуцца назад і напішуць успаміны, якія і зараз чытаюцца з вялікай цікавасцю. А на Русі тым часам звінелі сякеры: адбудоўваліся спаленыя вёскі, гарады, манастыры...

Прайшло сто пяцьдзесят гадоў. Палітычная карта Усходняй Еўропы за гэты час істотна змянілася. На ёй абазначаліся межы маладой магутнай дзяржавы — Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага. Яе ўсходнія ўладанні прасціраліся за Дняпро, а на поўдні межавалі з ордамі качэўнікаў, якіх паміж Волгай і Днястром было ўжо некалькі. Акрыяла Русь. Яе землі пачалі з’ядноўвацца вакол новага цэнтра — Масквы. Маладая Маскоўская дзяржава хутка мацнела. Татарскія орды

час ад часу рабілі набегі, але адчувалася, што былой перавагі ўжо не было. Неўзабаве князь Дзмітрый накіроўваецца з войскамі на поўдзень. Разам з ім і некалькі палкоў Вялікага княства. На рацэ Дон, на Куліковым полі, у 1380 годзе адбывалася рашаючая бітва з ордамі Мамая.

А яшчэ праз семнаццаць гадоў жыхары вёсак Беларусі ўбачылі на дарогах натоўпы людзей смуглявага твару і з раскосымі вачыма. Яны панура ішлі з дзецьмі, статкамі і хатнім скарбам, і пыл, узняты цесным натоўпам, доўга трымаўся ў паветры, павольна асядаючы на плечы і галовы тых, хто яшчэ зусім нядаўна з імклівасцю стэпавага ветру нёсся праз раўніны Еўропы, каб хутчэй абмыць капыты нецярплівых коней у хвалях апошняга мора.

# Ад блакітнага Керулену да сіняга Нёмана



Паход Батухана ў Еўропу закончыўся ў 1242 годзе, а першыя звесткі пра з'яўленне татар на землях Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага адносяцца да пачатку XIV стагоддзя (набегі Узбекхана на ўладанні Гедыміна, удзел татар у бітве Гедыміна з крыжакамі ў 1319 годзе). Фарміраванне ж татарскіх асад на тэрыторыі Беларусі адносіцца ў асноўным да XV—XVI стагоддзяў, і пераважная большасць перасяленцаў — крымскія татары. Дык прычым тут паходы Батухана і манголаў, якія прыйшлі з ім з берагоў далёкага Керулену? І хто такія крымскія, казанскія, астраханскія татары? Адкуль яны ўзяліся? Народы Старажытнай Русі мелі пастаянныя сутыкненні з плямёнамі стэпу: кіпчакамі, хазарамі, полаўцамі, берандзеямі — задоўга да прыходу Батыя і не чулі, каб недзе ў Лукамор'і былі татары. Ды і насельніцтва Волжскай Булгарыі ў часы Юрыя Далгарукаў і Усевалада Вялікае Гняздо ніхто татарамі не называў. Хто ж такія татары? І з якіх часоў яны з'явіліся на прасторы ад Дуная да Волгі?

З другой паловы XII стагоддзя ў шматлікіх плямёнаў Цэнтральнай Азіі хуткімі тэмпамі ішоў працэс станаўлення «качавога феадалізму». Ен суправаджаўся стварэннем моцнай дзяржавы і заваявальніцкімі паходамі. Сярод плямёнаў найбольш шматлікімі былі меркіты, караіты, айраны, найманы, татары і манголы. Сярод апошніх вылучаўся Тэмуджын, які і паставіў мэтай аб'яднаць плямёны ў адзіную дзяржаву. Мангольскі летапіс «Патаемнае сказанне» падрабязна распавядае, як шляхам ваеннай сілы, подкупаў і здрады Тэмуджын пакарыў плямёны і, прыняўшы тытул Чынгісхана (Вялікі хан, 1155-1227 гг.), стварыў велізарнейшую дзяржаву, што

распасціралася ад Чорнага мора да Ціхага акіяна. Племя татараў было самым ваяўнічым. Яго коннікі вылучаліся моцным складам цела і ростам. Таму навакольныя народы: тангуты, чжурджэні, кітайцы назву «татары» распаўсюджвалі ўвогуле на ўсе мангольскія плямёны XI-XII стагоддзяў. Але ва ўпартай барацьбе Тэмуджын перамог і татар і пазбавіў жыцця ўсіх, хто быў вышэй восі кола фурманкі". Тыя з татар, хто застаўся жывым, уліліся ў мангольскую дзяржаву. Створаная Чынгісханам дзяржава грунтавалася на прынцыпах ваеннага лагера. Адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел будаваўся з разлікам хуткай мабілізацыі з вызначанай акругі 10 тысяч коннікаў (тумену), што адпавядала палітыцы бясконцых захопніцкіх войнаў. Пасол Суньскай дзяржавы (Кітай) Чжао Хун, які ў 1221 годзе наведаў мангола-татарскае войска, пісаў: «Татары нараджаюцца і вырастаюць у сядле. Самі сабою яны вучацца біцца. З вясны і да зімы яны кожны дзень ганяюцца і палююць. Гэта і ёсць іх сродак да існавання...» Кітайскі хронік, як бачым, назваў татарамі войска, якое складалася далёка не толькі з прадстаўнікоў гэтага племені. Ужо ў XIII стагоддзі назва «татары» становіцца этнонімам плямёнаў, аб'яднаных у дзяржаве Чынгісхана. З гэтых жа часоў іх называюць татары ці мангола-татары.

Знішчыўшы дзяржаву тангутаў (1227 г.), заваяваўшы імперыю Цзінь, дзяржаву чжурджэняў, продкаў сучасных маньчжураў (1234 г.), мангола-татары адначасова вядуць войны ў Сярэдняй Азіі (1219—1224 гг.) і заваёўваюць Туркестан і Мавеpанаахр, дзяржаву Харэзмшахаў. У 1235 годзе на з'ездзе (курултаі) у Талан-дабэ сыны і ўнукі вялікага кагана, чынгісіды, прымаюць рашэнне ісці на захад.

У войску, што рухалася з Батуханам, было шмат прадстаўнікоў туркменскіх, таджыкскіх, кіргізскіх і іншых плямёнаў Сярэдняй Азіі. Да іх далучаліся выгнаныя з разрабаваных качэўяў палавецкія, кіпчакскія і іншыя цюркамоўныя плямёны уа захад ад Урала. У 1236-1237

гадах мангола-татары заваёўваюць дзяржавы Каўказа, большую частку палавецкіх стэпаў, падвяргаюць разгрому Волжскую Булгарыю і выходзяць да межаў старажытнарускіх княстваў. Венгерскі манах-місіянер Юліян, якога Рымскі папа накіраваў у разведку ў войскі Батухана, у 1235-1237 гадах адзначыў у сваіх дзённіках некаторыя цікавыя акалічнасці. «...Годных для бітвы воінаў і пасялян яны (татары), узброіўшы, пасылаюць у бой супраць іх волі перад сабой. Іншых жа пасялян, меней здольных да бою, пакідаюць для апрацоўкі зямлі, а жонак, дачок і родзічаў тых людзей, якіх пагналі ў бой і каго забілі, дзеляць паміж пакінутымі для апрацоўкі зямлі, прызначаючы кожнаму па дванаццаць і болей, і абавязваюць тых людзей наперад называцца татарамі». Сучаснік падзей засведчыў працэс распаўсюджвання назвы «татары» на ўсіх, каго мангола-татары сабе падпарадкавалі.

Пасля ўмацавання Залатой Арды, якая раскінулася амаль ад Дуная і да Уральскіх гор, для вялікай колькасці цюркамоўных народаў стэпу пачынаецца працэс фарміравання новай этнічнай супольнасці ва ўмовах новай дзяржавы. Назва «татары» паступова распаўсюджваецца на ўсё качавое насельніцтва Залатой Арды. У Ардзе панавала небывалая дагэтуль помесь моў і дыялектаў, вераванняў і абрадаў. Бубен шамана суседнічаў з крыжом нестарыянскага манаха і чалмою мусульманіна. Сапраўднымі, этнічнымі мангола-татарамі ў новай дзяржаве былі толькі военачальнікі і феадальная знаць. Асноўную ж частку насельніцтва складалі цюркі і кіпчакі, полаўцы, печанегі, берандзеі, хазары і г. д. На думку сучасных гісторыкаў, за два стагоддзі існавання Залатой Арды насельніцтва яе еўрапейскай часткі робіцца этнічна аднародным. Агульнай становіцца цюркская (палавецкая) мова, робіцца аднолькавым абрад пахавання, знікаюць адрозненні ва ўпрыгожаннях адзення. К XV стагоддзю на тэрыторыі Залатой Арды ўтвараецца новы народ, на які распаўсюджваецца назва «татары».

Такім чынам, можна вылучыць тры перыяды ў гісторыі татар:

— першы, 1206 год — год утварэння Мангольскай дзяржавы і фарміравання народа мангола-татар у яе межах;

— другі, 1206-1242 гады — перыяд мангола-татарскіх захопніцкіх войнаў і распаўсюджвання назвы «татары» сярод запаланёных плямёнаў;

— трэці, з 1242 года і да пачатку XV стагоддзя — перыяд фарміравання народа татар на тэрыторыі Залатой Арды.

Палітычнае адзінства новага народа было недаўгавечным. Ужо ў трыццатыя гады XV стагоддзя ў той частцы Арды, што межавала са старажытнарускімі княствамі, пачынаецца працэс феадальнага драблення. Аддзяляюцца Сярэдняе Паволжжа, астраханскія, крымскія татары.

Такім чынам, крымскія татары, з якіх у XV-XVI стагоддзях фарміраваліся асады на беларускай зямлі,— гэта продкі кіпчакоў-полаўцаў і іншых цюркскіх плямёнаў і народнасцяў, якія пражывалі ў Паўночным Прычарнамор'і задоўга да мангола-татарскага нашэсця і якія набылі назву «татары» ў лоне Залатой Арды. І яшчэ варта адзначыць адну акалічнасць. Да стварэння Залатой Арды і орд, што пазней вылучыліся з яе, набегі кіпчакоў на тэрыторыі цяперашняй Беларусі былі эпізадычнымі. Ва ўсялякім разе, даніну хазарам да ўтварэння старажытнарускай дзяржавы плацілі, мабыць, толькі радзімічы. Пасля ўтварэння орд рэйды татар (кіпчакоў) робяцца сістэматычнымі і распаўсюджваюцца далей на поўнач, да Менска і Навагрудка.

Місіянеры-францысканцы, якія вандравалі ў XIV стагоддзі па землях Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага, распаўсюджваючы тут слова і вобраз Хрыстовы, у сваім штогодніку за 1394 год пісалі, што сярод мясцовага насельніцтва вогнепаклоннікаў сустрэлі невядомых людзей, што прыйшлі гэтыя людзі сюды з

краіны нейкага хана і моляцца яны на незразумелай азіяцкай мове...

У лютым 1414 года пасол англійскага караля Джыльберт дэ Ланоў вяртаўся з Вільні і заехаў у Трокі, рэзідэнцыю Вялікага князя. Потым у дзённіку ён адзначыў, што ў гэтым мястэчку, а таксама ў шматлікіх вёсках пражывае вялікая колькасць татар, якія не спавядаюць веры ў Ісуса Хрыста і размаўляюць на мове, мянуемай татарскай. Адзначаючы вялікую колькасць у Троках немцаў, літвінаў, русінаў, пасол заўважыў і «вялікую колькасць жыдоў». Тут ён памыліўся. Гэта былі хазары іудзейскага веравызнання — караімы.

Але ўсё пачалося раней. Паваяваўшы землі былой Кіеўскай Русі, Гедымін (княжыў у 1315-1341 гг.) рухаўся на паўднёвы ўсход і нечакана сутыкнуўся з плямёнамі кіпчакоў і татар. Вялікаму князю прыйшла думка скарыстаць ваяўнічых качэўнікаў як абаронцаў межаў дзяржавы. Ен запрашае іх на службу ў войска. Кейстут і Альгерд ужо не абмяжоўваюцца выкарыстаннем татар толькі ў якасці абаронцаў межаў, але і запрашаюць іх да ўдзелу ў сваіх паходах супраць маскавітаў, палякаў, крыжакоў. Вярнуўшыся са службы, татары атрымлівалі права аседласці ў межах Вялікага княства, каля гарадоў і замкаў. Складаныя адносіны ў Альгерда былі з ханам Джанібекам, напачатку варожыя. Хан рабіў набегі, Вялікі князь адказваў паходамі ў яго улус. Адносіны змяніліся, калі Альгерд запрасіў Джанібека прыняць удзел у паходзе супраць палякаў (1350 г.). Праз два гады адбыўся паўторны паход. Тыя з татар, хто пажадаў, атрымалі аседласць у княстве.

Міралюбівыя адносіны з татарамі былі і ў Ягайлы, Калі ў 1380 годзе маскоўскі князь Дзмітрый запрасіў яго ў паход супраць Мамая, то разам з Ягайлам на поле Кулікова накіравалася некалькі татарскіх палкоў. Аднак крыху пазней у палітычных інтарэсах, каб замірыцца з тымі качэўнікамі, якія помсцілі за Мамая, Ягайла

ўсталёўвае роднасныя сувязі з сынам Мамая, Кайданам. Адзін з сыноў Мамая потым прыме хрысціянства, атрымае ў Падняпроўі землі і пакладзе пачатак знакамітаму дваранскаму роду князёў Глінскіх.

Энергічна і рашуча ўзяўся за ўмацаванне Вялікага княства Вітаўт. Ен дзейнічаў як сапраўдны арганізатар і будаўнік: узводзіў кляштары і касцёлы, будаваў уздоўж межаў дзяржавы замкі, аднаўляў прыйшоўшыя ў заняпад. У яго планы ўваходзіла пашырэнне татарскіх асад як у цэнтры, так і на межах дзяржавы. Ен імкнуўся праз іх стварыць шырокую ваенізаваную сацыяльную праслойку.

На рубяжы XIV і XV стагоддзяў некалі магутная Залатая Арда ў выніку бясконцых войнаў, дынастычных і рода-племянных спрэчак перажывала глыбокі крызіс. Пераможцы захоплівалі ханскі трон, а пераможныя беглі з родных улусаў да маскавітаў ці ў Літву. Мудры Вітаўт не адказваў ім у гасціннасці. У 1380 годзе, пасля смерці Мамая, вялікі хан усіх ордаў татарскіх Цімур-Ленк аддаў залатаардынскі трон уладару Белай Арды Тахтамышу, таму самаму, што некалі спаліў Маскву. Аднак апошні адчуў сябе настолькі ўладарна, што дзёрзка выступіў супраць свайго патрона. У 1384 годзе Цімур-Ленк разграміў Тахтамыша і скінуў яго з ханскага трона. Праз некаторы час адбылася паўторная сеча (1395 г.). Цімур-Ленк зноў перамог. Уцалелыя войскі Тахтамыша ўцякалі ў Малдову, Масковію і Вялікае княства. А яшчэ праз два гады да Вітаўта прыбыў з сям’ёю і сябрамі і сам Тахтамыш.

Вітаўт прыняў Тахтамыша і рэшткі яго войска, сабраў уласную армію, запрасіў у саюзнікі рускія палкі і ў 1397 годзе выправіўся ў кіпчакскія стэпы. Пераправіўшыся праз Дон, войска Вітаўта праз некаторы час выйшла да Волгі і ўварвалася ў галоўныя залатаардынскія улусы. Тысячы палонных з усім сваім скарбам пацягнуліся праз бясконцыя стэпы ў край дрымучых лясоў, балотаў,

сініх азёраў і рэк. Праз год, у 1398 годзе, Вітаўт з тым жа войскам, да якога далучыўся яшчэ і атрад крыжакоў, накіраваўся ў Крымскія орды і тут пасадзіў на трон Тахтамыша. Вяртаючыся дамоў, Вітаўт прыхапіў некалькі дзесяткаў сем'яў караімаў, якіх потым пасяліў у сваёй рэзідэнцыі ў Троках, адкуль з цягам часу яны рассяліліся ў Вільню і Панявежыс.

У 1409 годзе да Вітаўта прыбылі з войскамі сыны Тахтамыша. З імі быў праслаўлены палкаводзец, стары султан Джэлад-эд-дзін. У 1410 годзе ўсе яны разам накіраваліся пад Грунвальд, каб прыняць удзел у Бітве народаў. Коннікі Джэлад-эд-дзіна моцна пабілі крыжакоў. Ад рукі хана Багардзіна загінуў і апошні вялікі магістр ордэна Ульрых фон Юнгінген. Удзячны Вітаўт дапамог старому султану ў барацьбе з сапернікам, і ў 1412 годзе ханскі трон пераходзіць да сына Тахтамыша.

На працягу ўсяго XV стагоддзя у Вялікае княства ішлі і ішлі перасяленцы з Крыма. Казімір Ягелончык, Аляксандр, Зыгмунд I пашыралі татарскія асады, узмацнялі іх шляхам ахвяравання новых і новых земляў.

Прыблізна праз сто пяцьдзесят гадоў, у 1561 і 1568 гадах, Зыгмунт Аўгуст выдае татарам прывілеі на шляхецтва. Пазней гэтыя прывілеі пацвердзяць Стэфан Баторый (1576 г.), Зыгмунд III (1608 г.), Уладзіслаў IV (1634 г.). Пры Зыгмундзе Аўгусце ўпершыню робіцца перапіс татар Літвы, а таксама ім даецца дазвол на шлюб з хрысціянскім насельніцтвам. Атрымаўшы шляхецтва, татары пачынаюць прымаць беларускамоўныя імёны і прозвішчы. Пры Зыгмундзе III некалькі знакамітых татарскіх фамілій служылі пры самім каралі: Уланскія з Гродзенскага і Ашмянскага паветаў, Юшынскія з-пад Трок, Найманскія з ваяводства Віленскага, Яноўскія і Барунскія з ваяводства Навагрудскага, Кандрацкія з павету Меражлянскага.

Нашчадкі ханаў, начальнікі войска, атрымлівалі шляхецкія прывілеі і паступова ператвараліся ў татар-

зямян, феадалаў. Астатнія станавіліся простымі земляробамі, займаліся агародніцтвам ці папаўнялі рамеснае насельніцтва гарадоў і мястэчкаў. Там яны займаліся апрацоўкай скур, медніцтвам, рамізным промыслам і гандлем. Сяліліся татары-рамеснікі асобнай грамадой на вуліцах-канцах, утвараючы слабоды і прадмесці. У XVI стагоддзі татарская слабада ўзнікла ў Менску. Яе ўтварылі крымскія татары, пераможаныя ў 1506 годзе князем Глінскім пад Клецкам. У 1599 годзе тут была закладзена мячэць. Галоўныя вуліцы прадмесця, Вялікая і Малая татарскія, населеныя рамеснікамі, якія гандлявалі на Нямісківм рынку, праіснавалі да пачатку нашага стагоддзя.

У XVI стагоддзі на землях Вялікага княства пражывала каля сарака тысяч татар, а стагоддзем пазней — ужо звыш ста тысяч. На пачатку нашага стагоддзя дваццаць тысяч татар пражывала ў наваколлі Вільні, Навагрудка, Полацка, Гродна, Беластока, Варшавы, Менска. Вялікая колькасць татар пражывала ў наваколлі Міра, Нясвіжа, Клецка, Сіняўкі, Узды, Капыля, Слуцка, Ляхавіч, Смалявіч.

На сённяшні дзень у Беларусі жыве звыш дзесяці тысяч прадстаўнікоў татарскай нацыянальнасці.

# Вытокі светапогляду



Мангола-татары, што прыйшлі ў Еўропу з атрадамі Джэбэ і Субэдэя, а потым з войскам Батухана, часткова былі язычнікамі, часткова ламаістамі. Тыя плямёны, што ішлі за Батуханам з Сярэдняй Азіі, з заваяваных краін Харэзмскіх шахаў, спавядалі іслам. Качавыя плямёны і народнасці Прычарнамор’я запазычылі іслам у туркаў, у тым ліку і крымскія татары, з якіх у XV-XVI стагоддзях фарміраваліся асады ў Вялікім княстве Літоўскім. Таму зразумець карані і традыцыі культуры татар Беларусі дапаможа знаёмства з вытокамі іх светапогляду. А гэты светапогляд грунтаваўся на ісламе.

Як монатэістычны культ арабаў і адна з сусветных рэлігій у далейшым іслам пачаў фарміравацца ў VII стагоддзі. А дагэтуль шматлікія аравійскія плямёны бедуінаў спавядалі полідэманістычныя культы. Аб’ектамі рэлігійнага ўшанавання з’яўляліся шматлікія ідалы. Яны ўвасаблялі духаў-пакравіцеляў плямёнаў, родаў, сем’яў. Вобразнага ўяўлення пра духаў бедуіны не мелі і таму не пакінулі якіх-небудзь іх выяў, зробленых мастацкімі сродкамі. У вандруючых народаў з прычыны своеасаблівага жыццёвага ўкладу не існавала нейкай статычнай замкнёнай прасторы, дзе б чалавек мог засяродзіцца ў адзіноце і аддацца духоўнаму сумоўю з богам. Адзіным домам для ўсіх была бяскрайняя пустыня і спякотнае ўдзень і халоднае ўначы неба. Іншы раз, дзе-небудзь у. вандраванні, дастаткова было для малітвы звычайнага каменя. Ролю племяннога ідала магла адыгрываць куча пяску, палітая вярблюджым малаком. Аднак прыкметы монатэізму існавалі ў бедуінаў і да ісламу. Напрыклад, яны лічылі, што над усім сномам духаў пануе адзін, галоўны — Алах. Астатнія з’яўляюцца нібыта яго дзецьмі.

Пануючы бог не меў асобнага культу, і ўяўленні аб ім былі яшчэ больш незразумелымі.

Арабам не была ўласціва рэлігійная замкнёнасць. Сярод іх спакойна распаўсюджваліся сабеізм, персідская магія, іудаізм і хрысціянства. Аднак апошняе было для качэўнікаў надзвычай дагматычным, а іудаізм адрозніваўся яўна выражаным нацыянальным характарам.

З развіццём дзяржаўнасці ў арабаў узнікла патрэба стварэння адзінага культу. Кожная з існуючых розных сектаў прэтэндавала на рэлігійнае панаванне. Але для гэтага патрэбна ідэя і яе ўвасабленне, здольныя прывабіць масы. Секта ханіфаў (аскетаў) зразумела раней за іншых, што адзіным ідэалам у справе рэлігійнай кансалідацыі з'яўляецца вярхоўны бог традыцыйнага пантэона. Ханіфы пачынаюць фарміраваць культ Алаха і вучэнне аб пакаранні. Вера ў Алаха атаясамлівалася з самаадданасцю яго волі (іслам). Паколькі да ханіфаў адносіў сябе і сам Мухамед, то вынікае, што іслам існаваў і да прарока.

Вандроўны вобраз жыцця, эпізадычнасць кантактаў паміж плямёнамі не стваралі ўмоў для разважанняў пра бога, пра сапраўднасць і будучыню быцця. Рэлігія продкаў задавальняла перш за ўсё тым, што не абавязвала нікога і не перад чым. Жыццё ў непрадбачаных абставінах рабіла непатрэбнымі залішнія абавязкі. А вось у працэсе станаўлення дзяржаўнасці вучэнне пра адзінага бога і пра загробнае жыццё адпавядала палітычным інтарэсам старэйшын, што стаялі на чале плямёнаў, і тых з іх, якія імкнуліся да кансалідацыі. Мухамед (571 — 638 гг.), член секты ханіфаў, чалавек адукаваны, дасведчаны ў асновах хрысціянства, іудаізму і шматлікіх мясцовых вераванняў, адчуваў сувязь працэсаў грамадскай і рэлігійнай бытнасці. У фарміраванні асноў новага культу ён не пагрэбаваў існуючым вопытам вучэння хрысціян і іудзеяў.

Упершыню Мухамед у якасці прарока выступіў у 610 годзе ў асяроддзі родзічаў і знаёмых. З 614 года яго прапаведніцкая дзейнасць выходзіць за межы роду, становіцца публічнай. Аднак працэс стварэння абшчын ідзе марудна. Не ўсіх задавальняла абяцаная прарокам усеагульная роўнасць перад богам і не ўсіх палохала непазбежнасць страшнага суда. У Мухамеда з'яўляюцца аднадумцы (купцы Абу-Бекер, Асман, воін Амар), але яго яшчэ не падтрымліваюць важакі родаў і плямёнаў. Пачынаецца супроцьборства, і прарок у 622 годзе вымушаны нават уцячы з Меккі ў Медзіну.

У Медзіне насельніцтва аказалася больш падрыхтаваным для прыняцця ісламу. Сярод мясцовых плямёнаў ужо атрымала распаўсюджанне вучэнне аб Месіі. Прыезд прарока ва ўяўленні многіх атаясамліваўся з апошнім. Мухамеда выбіраюць главой буйной абшчыны, у яго руках аказваюцца рычагі для правядзення рэформ. Рэлігійную дзейнасць ён пачынае злучаць з дзяржаўнай.

Яшчэ задоўга да ўзнікнення ісламу як адзінага артадаксальнага монатэістычнага культу арабы стварылі ў горадзе Мекка галоўнае свяцілішча, славутую Каабу. Гэта была простая і лаканічная па формах пабудова: чатыры сцяны і страха. Усярэдзіне, па перыметры, стаялі ідалы, а ва ўсходнюю сцяну быў умураваны чорны камень, аб'ект усеагульнага пакланення і паломніцтва. Прыбыўшы ў Медзіну, Мухамед неўзабаве будуе там першы храм ісламскага веравызнання — мячэць. Яна з'яўлялася адначасова і жытлом прарока і яго сям'і. Аднак яшчэ не пераадолены ўсе супярэчнасці асноўных дагматаў веры. Медзінцы іншы раз папракалі Мухамеда за тое, што ў яго вучэнні нібыта зашмат запазычанняў з талмуда і торы. Але прарок ужо адчуваў сваю моц, знайшоў сацыяльна-палітычную апору. Ен робіць рашучы крок. Дагэтуль цэнтрам сусветных рэлігій і скарбніцай іх святынь лічыўся Іерусалім. Мухамед разумеў, што для замацавання міжнароднага аўтарытэту ісламу і для разрыву

з хрысціянскімі і іудзейскімі дагматамі новая рэлігійная сістэма павінна мець уласны цэнтр і ўласнае свяцілішча. Ен абвяшчае ў 623 годзе такім цэнтрам Мекку і загадвае алтары мячэцяў (міхраба, кібла) арыентаваць не на Іерусалім, а на Мекку. Так апошняя робіцца мусульманскай святыняй.

Натуральна, што наступным крокам у дзейнасці прарока павінна было стаць усталяванне сваёй улады там, адкуль ён калісьці быў адпраўлены ў выгнанне. З 624 года Мухамед пачынае ваенныя дзеянні супроць мекканцаў. Некаторы час войны ідуць з пераменным поспехам. У 621 годз.е прарок рассылае суседнім манархам лісты з заклікам прыняць іслам. У лютым 629 года ён з войскам уступае ў Мекку і праводзіць патрэбныя абрады. Аднак гэта быў нібыта пробны, няўпэўнены крок, бо літаральна праз год Мухамед з дзесяцітысячным войскам зноў уступае ў горад, знішчае ідалаў Каабы (учыніўшы шанаванне толькі чорнаму каменю) і хатніх ідалаў.

Мекканцы прымаюць іслам. Арабскія плямёны адно за другім пачынаюць падпарадкоўвацца прароку. У сакавіку 632 года Мухамед на чале чатырнаццацітысячнага натоўпу мусульман ажыццяўляе з усімі рытуаламі і абрадамі хадж у Мекку. Тут, у час набажэнства, ён заяўляе, што лічыць сваю місію перад богам выкананай. Праз тры месяцы, 8 чэрвеня, прарок памёр. Пахавалі Мухамеда ў Медзіне, у пабудаванай ім некалі мячэці. Пасля смерці прарока яшчэ некаторы час сярод плямёнаў Аравіі праходзяць рэлігійныя хваляванні і першым халіфам Абу-Бекеру і Амару прыйшлося прыкласці немалыя намаганні, каб замацаваць асновы веры і распаўсюдзіць іслам у іншых дзяржавах.

Асноўным законам, які адлюстраваў культурна-бытавыя традыцыі мусульман, з'яўляўся шарыят, кананічнае ісламскае права, пабудаванае на запаветах карана. Пэўная колькасць татарскіх асад, прыпісаных да мячэці і ахвяруючых на яе ўтрыманне, утварала прыход. Буй-

ная абшчына, агол, ці збор, называлася яшчэ таксама джэміятам. У XV-XVIII стагоддзях джэміят адыгрываў важную ролю ў жыцці татар Літвы і Беларусі. Члены мусульманскага прыходу збіраліся на агульныя сходкі альбо з'езды (калі гэта было ў маштабах павета ці ваяводства) і вырашалі неабходныя справы. Памфлетыст Ян Чыжэўскі ў 1616 годзе пісаў: «Татары сеймы і з'езды свае маюць». Джэміяту перш за ўсё належала прэрагатыва выбрання імамаў і мул. Джэміяты ад імя татарскай грамады выдавалі разнастайныя атэстаты, пасведчанні, пацвярджэнні шляхецкіх прывілей і г. д.

Пасля далучэння земляў Вялікага княства Літоўскага да Расійскай імперыі царскі ўрад ліквідуе старажытную сістэму джэміяту. Татары аддаюцца ў падпарадкаванне мусульманскага Таўрычаскага духоўнага праўлення. Для адміністрацыйнага кіраўніцтва на месцах ствараецца сістэма патранату. Звычайна патронам прызначаўся хто-небудзь з татар, які знаходзіўся на царскай службе ў вялікім чыне. У маштабах імперыі мусульманскае веравызнанне знаходзілася ў падпарадкаванні галоўнага ўпраўлення замежных веравызнанняў. Гэтае ведамства неаднаразова спрабавала стрымаць рост мусульманскіх прыходаў, узбуйніць іх.

У дваццатыя гады нашага стагоддзя адміністрацыя буржуазнай Польшчы спрабавала адрадзіць традыцыі самакіравання. Меркавалася, каб на чале прыхода стаяў «савет з найзнатнейшых прадстаўнікоў даўняга мусульманства», на саветах прыхода «кожнаразова выбіраўся імам». 21 мая 1938 года быў прыняты Статут аб грамадствах мусульманскіх. Ён не прадугледжваў ні інстытута патронаў, ні кіраўнікоў прыходаў. «На чале мусульманскай гміны стаіць імам, абаронцай і памочнікам якога з'яўляецца муэдзін. Імам і муэдзін выбіраюцца на агульным сходзе членаў дадзенай гміны».

Прапаведнік ісламскага права, імам (правадыр), акрамя рэлігійных абавязкаў кіраваў і ходам свецкіх

спраў. Па традыцыі татар Беларусі імамам мог быць абраны той, хто шанаваў звычаі, ведаў запаветы карана, вылучаўся розумам. Аднак гэты тытул ужываўся пераважна як афіцыйны. У свецкім побыце звычайна татарскага духоўніка звалі «мула» (гаспадар, абаронца). Гэты тытул шырока сустракаецца ў актах XVI стагоддзя: «мулла, поп татарскі». Мулы буйных мячэцяў мелі таксама тытул «хатып» (казнадзержца).

Рытуальны ўбор мулы складаўся з доўгай чорнай сукні з шырокімі рукавамі (джуба), чорнага альбо цёмна-зялёнага каўпака, аблямаванага белай тканінай. Віленскі муфцій у трыццатыя гады ўвёў новы ўзор галаўнога ўбору: чырвоную фэзу з белым завоем. Мула Іўеўскай мячэці ў якасці рытуальнага ўбору мае шырокі зялёны халат і чырвоную фэзу.

Мула вёў метрычныя запісы, выступаў «рэчнікам» у гарадскіх земскіх органах самакіравання, вёў спісы татар прыхода для ўліку рамесных падаткаў, выступаў сведкам пры складанні актаў спадчыны. Як хатып мула меў права выдаваць каштоўныя паперы (аблігацыі), яму нярэдка на захаванне здавалі каштоўныя рэчы, паперы і г. д. У дакументах мула іншы раз наракаўся тытулам князя. Магчыма, у перыяд фарміравання татарскіх асад першых духоўнікаў на пасаду мулы запрашалі з Крыма ці з паволжскіх каганатаў — «з прылеглых краёў мусульманскіх». У гонары была і жонка мулы. У яе абавязкі ўваходзіла навучанне дзяцей чытанню карана.

Фундаванне мячэцяў ажыццяўлялася за кошт прылеглых татарскіх маёнткаў, а таксама на ахвяраванне. У буйных прыходах фундатарамі выступалі так званыя калятары, татары-зямяне, якія выдзялялі сродкі на ўтрыманне мячэцяў і мул. Фундуючыя мячэць маёнткі называліся вакуфамі. Своечасова клапоцячыся аб выратаванні душы, татары часта складалі фундушовыя тастаменты на карысць мячэцяў і мул.

Іншыя рэлігійныя тытулы ісламу — шэйх, вэйдж, улем, якія характарызавалі ступень духоўнай вучонасці, на Беларусі не атрымалі распаўсюджання. Татары Вялікага княства Літоўскага заўсёды імкнуліся да аўтаномнасці рэлігійнага становішча. С. Крычынскі, спасылаючыся на паведамленні трактата 1581 года, адзначаў, што прыкметы татарскай аўтаномнасці назіраліся ўжо ў другой палове XVI стагоддзя: «...татары літоўскія, якія жылі па законах карана, у справах куплі зямлі і да таго падобных падпарадкоўваліся мясцовым земскім саноўнікам». У XV-XVI стагоддзях у рэлігійнай іерархіі татары Беларусі вылучалі саноўніка на ўзроўні прыхода, кадзі (суддзя), кіраўніка мусульманскай правінцыі (рэгіёна), муфція і главу ісламскага свету — халіфа. Аднак па дакументах відаць, што тытул кадзі ўжываўся надзвычай рэдка, у старажытных актах ён зафіксаваны ўсяго адзін раз. У справах «мусульман літоўскіх» XVII-XVIII стагоддзяў фігуруюць турэцкія муфціі і ўлемы. С. Крычынскі прыводзіць паведамленне турэцкага гісторыка Ібрагіма Печэві пра тое, як у 1630 годзе прыязджалі ў Аккерман прадстаўнікі польскіх татар да муфція з прапановай аб заключэнні дагавора, які прадугледжваў правы рэлігійнай аўтаноміі, бо турэцкія муфціі ўвесь час імкнуліся на іх распаўсюдзіць свае рэлігійныя дэкрэты (фетвы). У 1672 годзе Ян III адмяніў прысланы «расклад рэлігійны» і больш таго — прызнаў рашэнне візантыйскага патрыярха аб прыняцці выхадцаў «з духоўнасці турэцкай» у хрысціянства. Аднак і пазней татарам Беларусі і Літвы іншы раз даводзілася звяртацца са спрэчнымі пытаннямі да форуму судоў духоўных у Турцыі.

З далучэннем да Расійскай імперыі падпарадкаванасць Таўрычаскаму духоўнаму праўленню ў многім была фармальнай. На месцах ствараліся аўтакефальныя аб’яднанні, выбіраліся муфціі, якія стаялі на чале «найвышэйшага калегіума мусульманскага». Гэты інстытут у 20-30-я гады нашага стагоддзя замацаваўся канчаткова. У гэты

час вышэйшым органам стаў так званы Усяпольскі мусульманскі кангрэс, дэлегаты якога выбіраліся ў прыходах.

Кангрэс збіраўся ў Вільні адзін раз у пяць гадоў. Выбіралі членаў калегіума на справаздачны перыяд (чатыры прадстаўнікі: два духоўныя і два свецкія), якія між сабою абіралі муфція.

Татары Беларусі з'яўляюцца продкамі кіпчакскіх плямёнаў Паўночнага Прычарнамор'я, Крыма, а таксама некаторых народнасцей Сярэдняй Азіі. Аб гэтым сведчаць сімвалічныя знакі родавай прыналежнасці, тамгі. Шматлікімі былі нашчадкі кіргізскіх плямёнаў Садзір і Найма, Кара-Керыс і Багамалаў, Серкеч і Балтолу, Кірэз і Джалаір, крымскіх родаў Дзяўлет Бердзея і Дзяўлет Гірэя, Сірынаў і Аргунаў, Ячлай, Нагацаў з Дольнай Арды. Тамгі хана Залатой Арды Менгу-Цімура, былых золатаардынскіх родаў Уйшунаў і Конград, паводле паданняў, атрыманы ад Чынгісхана. Гербы, пячаткі і знакі XIV-XVI стагоддзяў сведчаць пра існаванне каля паўсотні знакамітых татарскіх родаў.

Істотна, што прозвішчы набылі беларускамоўнае гучанне, але назвы старажытных плямёнаў захаваны: Александровічы (з роду Іскандэр), Шабановічы (з роду Шэйбан), Бараноўскія (з роду Барын), Кандратовічы (з роду Конград), Асановічы (з роду Асан) і іншыя.

Памяць пра татарскія асады на беларускай зямлі захавалася ў тапаніміцы. Варта прыгадаць такія назвы паселішчаў, як Койданава, Татарка, Татаршчына, Сорак Татар, Мамаі, Арда, Агдэмер, Балбасава, Татарск і г. д. Набегі крымскіх татар на землі Беларусі працягваліся да XVI стагоддзя. Ці не пра тыя ліхія часы апавядаюць песні Падняпроўя?

Ездзіў, ездзіў малойчык
Ён па чыстаму полю.
Ой, схіліў ён галоўку
Вараному каню ды ў грыўку.
А І з грыўкі ў капытца,
А з капытца ў далінку.

Спіць маладзец гадзінку,
Спіць маладзец і другую.
На трэцюю гадзінку
Бел малойчык прачынаецца.
Нет ні каня, ні сядла,
Мілой жаны і дзіцяткі.
Слугі мае верныя,
Запражыце пару коней,
Мы паедзем у дагоню.
Едзе поле, другое,
На трэцяе ўз’язджае.
Гарыць агонь ясненькі,
Стаіць шацёр новенькі,
А ў тым шатры татары
Ды з маёй жаною.
Завідзела мілая,
Яна ручанькай маша:
— Не наязжай, міленькі,
Ты ў татарскую бяседу.
Пацяраеш галовачку
Ты за мяне чарнабровачку.
Пацяраеш сядзельца
Ты за маё шчыра сэрца.
Пацяраеш коніка
За маленькае дзіцяці.
Мілы ета не слухаў,
Узяў бліжэй пад’ехаў.
Як выхваціў татар меч,
Дык далоў і галава з плеч.
Не дастанься, галава,
Ты ні мне, ні татарам.
Разлілася кроў твая
Па сырой матушцы-зямельцы.*

Татары Беларусі з’яўляюцца мусульманамі-сунітамі. Пасля смерці прарока Мухамеда (638 г.) у створаным ім тэалагічным вучэнні — ісламе (у перакладзе: аддасць богу) пачалі вылучацца секты і цячэнні. Частка мусульман прызнавала сапраўднымі толькі тыя паданні

* Запісана аўтарам у вёсцы Зарэсце Магілёўскага раёна ад Шляхценка Наталлі Апанасаўны, 1925 г. н., якая чула гэтую песню ад маці, Бесалбасавай Кацярыны Міронаўны, родам з вёскі Чэрнеўка Шклоўскага раёна.

пра прарока (суны), якія ўзніклі ці былі складзены пры бліжэйшых супольніках Мухамеда: Абу-Бекеры, Амары і Асмане. Яны лічыліся законнымі пераемнікамі прарока і першымі халіфамі. Большасць мусульман — суніты (Сярэдняя Азія, Індыя, Кітай, Турцыя і г. д.). Іх рэлігійныя супраціўнікі (шыіты і персы Ірана, Індыі, некаторых абшчын Блізкага Усходу) аўтарытэтнымі прызнавалі паданні, якія зыходзілі толькі ад самога прарока і ад яго прыёмнага сына, а потым зяця — Алія і яго нашчадкаў — імамаў.

З цягам часу вучэнне сунітаў распалася на чатыры напрамкі. Адзін з іх быў заснаваны арабскім тэолагам Абу-Ханіфам (памёр у 767 годзе). Менавіта гэты суніцкі накірунак вызнавалі і татары Беларусі.

Тэрмін «мусульманін» на персідскай, асманскай і арабскай мовах меў адзіны сэнс — падданы волі божай. У матэрыялах Літоўскай метрыкі XIV стагоддзя неаднаразова сустракаецца «згодна звычаю нашага бусурманскага», «у веры бусурманскай татарскай будучы». Пасля вайны з туркамі слова «бусурманін» набыло ганебны сэнс і выйшла з ужытку.

Татары Беларусі строга памяталі асноўныя запаветы карана: няма іншага бога акрамя Алаха, прарок божы Мухамед; маліцца трэба пяць разоў на дзень, шанаваць пост; быць літасцівым да сірот; паломнічаць у Мекку да Каабы. Яны верылі ў бессмяротнасць душы і непазбежнасць споведзі перад Алахам у справах зямных. Таксама існавала перакананне, што прыйдзецца здаваць экзамен у веданні ісламу. Гэта было прычынай таго, што многія татары Беларусі, не ведаючы арабскай мовы, завучвалі суры (вершы) карана на памяць. Прававерным на тым свеце абяцаўся рай, а грэшнікам — пекла. І рай, і пекла па ўяўленнях складаліся з сямі кругоў. Паводле ісламскіх вераванняў, сярод людзей знаходзіўся і праціўнік Алаха, яго антыпод — Даджал (накшталт антыхрыста). Яго ўбачаць прававерныя ў гадзіну страшнага суда.

Пачуецца гук трубы — памёршыя ўстануць з магіл і адбудзецца падзел на праведных і грэшнікаў. Татары Беларусі верылі, што людзям дапамагаюць добрыя духі — апекуны (падобныя да хрысціянскіх анёлаў), а злыя дэманы распаўсюджваюць спакусы і грахі. Значная аддаленасць ад арабскага свету, адсутнасць мусульманскіх навучальных устаноў (медрэсэ) спрыялі з цягам часу адраджэнню паганскіх шаманістычных вераванняў продкаў, запазычанням розных рытуалаў у карэннага хрысціянскага насельніцтва.

Татарамі Беларусі найбольш ушаноўваўся звычай міласэрнасці. Ен грунтаваўся на ісламскай традыцыі садагі — раздачы падарункаў жабракам. На беларускай зямлі гэты звычай стаў нормай добразычлівых адносін у абшчыне (аголе). Ахвяравальны падарунак — ялмузу (печыва, агародніна, ласункі, благаслаўлёныя малітвай) даравалі не толькі жабракам, але і суседзям, знаёмым. Асаблівы клопат праяўляўся пра старых і сірот. Татарын, які меў вялікую сям'ю, абавязаны быў выхаваць і сіроцкае дзіця. Лічылася, што адкупіцца ад грахоў можна было, накарміўшы жабракоў. Рытуал садагі выконваўся без хвальбы і думак аб спажыве, верылі, што гэта была воля Алаха.

Да добразычлівых спраў адносіліся і ахвяраванні на мячэць і духоўнікаў (мулаў, муэдзінаў). Паломніцтва ў Мекку (хадж) маглі дазволіць сабе найбольш знакамітыя татары. Гісторык Станіслаў Крычынскі паведамляе аб хаджы трох татар Беларусі ў 1557-1558 гадах, які быў апісаны адным з іх у спецыяльным трактаце. Той, хто зрабіў паломніцтва ў Мекку, атрымліваў тытул хаджы. Хто не меў магчымасці і сродкаў адправіцца да свяшчэннай Каабы, пілігрымнічаў да мясцовых святынь: у Лоўчыцы, да магілы святога пастушка (ён цудадзейным чынам узносіўся на малітву да гроба прарока) і ў Сіняўку — там, на татарскіх могілках, знаходзілася цудадзейная магілка немаўляці.

З цягам часу веданне арабскай мовы, асноў мусульманскага набажэнства татарамі Беларусі страчвалася ўсё больш і больш. Цікавае паданне пра нейкага Яна Мурзіча з маёнтка Харавічы пад Навагрудкам: пасля скончэння руска-турэцкай вайны 1877-1878 гадоў ён узяў у маёнтак некалькі палонных турак-юнакоў, якія абавязаны былі перакладаць тэксты мусульманскіх духоўных кніг, бо толькі той, хто ўмеў чытаць каран, мог удзельнічаць у набажэнстве (намазе). Навучанне чытанню запаветаў прарока пачыналася з дзяцінства. Звычайна гэтае навучанне абмяжоўвалася ўменнем правільна вымаўляць напісаныя на арабскай мове вершы карана. Уласна арабская мова ў XVII-XIX стагоддзях была ўжо незразумелай мулам і муэдзінам. Звычайна карысталіся перакладамі на польскую, рускую, беларускую мовы.

Вылучаліся вялікія набажэнствы (Гужэль) і меней значныя (абдэст). Ідучы на набажэнства, трэба было пазбягаць выпадковых сустрэч з жанчынамі, хатняй жывёлай, нельга было глядзецца ў люстэрка. Маліцца трэба было седзячы «па-турэцку». У хаце, мячэці ці на могілках малітвы (салят) чыталіся на працягу ўсяго рытуалу набажэнства.

На набажэнства (намаз) прававерных склікаў памочнік мулы, муэдзін. У краінах Усходу заклік (азан) да набажэнства муэдзін рабіў з мінарэту мячэці. Пры ўваходзе ў мячэць неабходна было абавязкова зняць абутак, мець пакрытую галаву. Для старых і «людзей слабавітых» у мячэці меліся лавы, якія стаялі каля сцен. У мячэцях для жанчын абавязкова адводзілася спецыяльнае памяшканне.

Пасля чытання традыцыйных вершаў карана хорам спяваліся асобныя малітвы (зікр), якія праслаўляюць продкаў і прарокаў, у тым ліку Мухамеда і Ісуса. У некаторых малітвах прысутнічалі паганскія легенды продкаўкачэўнікаў, элементы фальклору. Днём набажэнства лічылася пятніца.

Татары Беларусі захавалі звычаі святкавання традыцыйных святаў. Яны таксама прыпадалі на пятніцу. Галоўнае свята — Рамадан-байрам адзначалася адразу ж пасля сканчэння месяца-посту Рамадана (разгавення). Святкаванне цягнулася тры дні. У першы дзень усе ішлі ў мячэць са святочнымі падарункамі мулам і муэдзінам (фітрэ). Скончыўшы ўрачысты намаз, мула віншаваў прысутных. Вярнуўшыся дадому, ладзілі абед, многія ішлі на могілкі (мізар) памаліцца за продкаў і сваякоў, учыніць іясенне (малітву, ад арабскага «іесін», першыя літары пачатковага і апошняга з трыццаці шасці вершаў карана). Раздавалі ялмузу. У наступныя дні хадзілі ў госці, ладзілі гульні і забавы.

Свята Курбан-байрам святкавалася чатыры дні. Першы дзень быў найбольш хвалюючым. Пасля намазу каля мячэці адбываўся рытуал ахвяравання (курбан) у памяць продкаў. У аснове рытуалу, магчыма, ляжыць біблейская легенда пра ахвяраванне Абраахамам (біблейскі Аўрам) богу сына Ізмаіла (біблейскі Ісаак). Бог тую ахвяру замяніў на авечку. Але, відаць, найбольш верагодна, што карані звычаю ўзыходзяць да даісламскіх часоў першабытна-родавага ладу.

У ахвяру звычайна прыносілі каня, вала, карову альбо авечку. Ахвяраванне рабілася пасля адпаведнай малітвы. Мяса дзялілася паміж ахвяруючымі, імамамі, прыхаджанамі і жабракамі. З яго гатавалася рытуальная трапеза памінання памерлых продкаў.

Курбан-байрам шырока святкуецца беларускімі татарамі і зараз. Муэдзін Іўеўскай мячэці Шабановіч Ісмаіл Аліевіч расказваў, як адзначалася гэтае свята ў Іўі ў 1988 годзе. У першы дзень Курбан-байрама ў Іўе з'ехалася вялікая колькасць гасцей. Раніцай адслужылі намаз. Жанчыны, выходзячы з мячэці, раскідвалі па траве яблыкі, цукеркі, печыва, прысмакі. Іх з радаснымі крыкамі падбіралі дзеці. Каля агароджы знаходзілася восем звязаных бычкоў. Пасля спецыяльнай малітвы мула,

Шабановіч Мустафа Аляксандравіч, даў знак і бычкі былі забіты, пасля чаго пачалося ўсеагульнае святкаванне. Жыхар Іўя Талкачоў Павел Панцялеевіч адзначыў, што не заўсёды святкавалі так шчодра. У іншыя гады ахвяраванні былі больш сціплымі (адзін бычок альбо некалькі авечак ці бараноў і ў дадатак каля паўсотні пеўняў).

Наступнае свята — Ажурэйны байрам святкавалася на 9-10-ты дзень першага месяца месячнага календара — Мухарэма. Паводле падання, у гэты дзень жонка прарока — Фаціма чакала вяртання з вайны сыноў Хусейна і Хасана. Быў падрыхтаваны багаты стол. Аднак прыйшла сумная навіна: сыны загінулі ў баі. У роспачы маці змяшала ўсе стравы, і з таго часу павёўся звычай у дзень Ажура рыхтаваць стравы з дзевяці відаў агародніны, ягад і груш, звараных у рысе.

Першы дзень месяца Мухарэма святкуецца як Новы год. Муэдзін Іўеўскай мячэці Шабановіч Ісмаіл Аліевіч адзначаў, што гэтае свята адначасова і радаснае, і сумнае, бо прарок Мухамед нарадзіўся і памёр у адзін дзень (дата нараджэння 20 красавіка 571 года, смерці — 8 чэрвеня 632 года па хрысціянскім календары). Гэты дзень прынята праводзіць у мячэці.

Пост Рамадан — адзіны час года, калі ў мячэці ладзяцца начныя набажэнствы (таравіх). Для гэтага выпадку сярод інвентару мячэці меліся своеасаблівыя драўляныя ліхтары, нешта накшталт балясін — падсвечнікаў. У другой палове Рамадана імам ці мула рабілі абход прыхаджан і збіралі фітрэ. Іх сустракалі ў хатах з накрытым сталом, дзе стаялі хлеб, соль, чыстая вада. Мула звяртаўся да гаспадароў з добрымі пажаданнямі, пасля чаго яму ўручалі фітрэ прадуктамі харчавання альбо грашыма.

Татары Беларусі карысталіся месяцавым календаром і ведаюць яго і зараз. Шабановіч Ісмаіл Аліевіч з ахвотай называе месяцы ў тым вымаўленні, якое бытуе ў Іўі: Мухарам, Сафар, Рэбі-уль-аўвель, Рэбі-уль-ахыр, Джэма-

зіл-аўвель, Джэмазіл-ахыр, Раджаб, Шайбан, Рамадан, Шаўваль, Зюль-каад, Зюль-хадж. Месяцавы год карацейшы за сонечны на 11 дзён, таму месяцы ўсходняга календара нібы дрэйфуюць у часе. Летазлічэнне ў мусульман вядзецца з дня пераезду Мухамеда з Меккі ў Медзіну, гэта значыць з 622 года хрысціянскага летазлічэння. У татар Беларусі з цягам часу ўсталяваўся звычай на дакументах і надмагільных помніках ставіць дзве даты: «з дня нараджэння прарока Мухамеда» і «з дня нараджэння прарока Ісуса».

Згодна з дадзенымі Першага ўсеагульнага перапісу насельніцтва Расійскай імперыі, у Віленскай губерні роднай мовай назвалі татарскую 2148 чалавек, ці 0,14 працэнта насельніцтва губерні. Разам з тым насельніцтва магаметанскага веравызнання складала 4375 чалавек, ці 0,18 працэнта насельніцтва. Відавочна, што на пачатак бягучага стагоддзя этнічнай прыкметай выступала не столькі мова (з вякамі страчаная), колькі веравызнанне.

Найбольш буйная татарская абшчына на Беларусі знаходзіцца ў Іўі. Мясцовыя татары добра памятаюць сваю радаслоўную. Мула Шабановіч Мустафа Аляксандравіч і муэдзін Шабановіч Ісмаіл Аліевіч расказваюць, што тутэйшая абшчына заснавана на пачатку XV стагоддзя «высакародным Батальдам». Ен за дапамогу татар у Грунвальдскай бітве аддаў урочышча Мураўшчызна, якое знаходзілася крыху больш кіламетра на поўдзень ад Іўеўскага замка. Іўеўскія татары трапілі на землі Вялікага княства з берагоў Лукамор’я (Прыазоўя). Адсюль яны прынеслі з сабою культуру агародніцтва, якое і сёння з’яўляецца іх галоўным заняткам. Нельга не дзівіцца акуратнасці і дагледжанасці татарскіх агародаў у Іўі. Усе тутэйшыя татары трымаюць кароў, авечак. У бытавым укладзе імкнуцца захаваць традыцыі. Шлюбныя сувязі носяць унутрыэтнічны характар, хоць усё часцей здараюцца выпадкі шлюбаў з прадстаўнікамі іншых этнасаў (беларусамі, рускімі, палякамі, літоў-

цамі). У пакоі, дзе праходзіць вяселле, сталы для мужчын і жанчын ставяць у супрацьлеглых канцах. Для моладзі маецца асобная пляцоўка для танцаў.

Татары Іўя працуюць у калгасе. Мула Шабановіч Мустафа Аляксандравіч за руплівую і шматгадовую працу на ніве атрымлівае дзяржаўную пенсію. У хатах татар там, дзе ў беларускіх сялян чырвоны кут, вісяць у зашклёных рамах тэксты вершаў карана, малітвы, напісаныя па-арабску. У Іўі маюцца трое татарскіх могілак: двое старых, дзе ўжо не хаваюць, і адны пазнейшыя, найбольш раннія пахаванні на якіх датуюцца пачаткам стагоддзя.

Татарскія абшчыны існуюць і ў іншых месцах, не толькі ў вёсках (Лоўчыцы каля Навагрудка), але і ў буйных гарадах — у Навагрудку, Гродне, Мінску. Існуе і дзейнічае згуртаванне татар Беларусі з цэнтрам у Мінску. Яно не толькі спрыяе адраджэнню культуры і этнічнай супольнасці, але і наладжвае шырокія сувязі з суайчыннікамі ў іншых краінах. Жыццё на новай радзіме, набытай продкамі ў час мінулы, працягваецца!

# Мячэці



Мухамед строга забараніў увасабляць Алаха ў якіх бы там ні было бачных формах, тым больш у выглядзе жывых істот, чалавечым абліччы. У гэтым таксама праявілася адсутнасць уяўленняў пра шануемых багоў. Пры рассяленні да берагоў Ганга на ўсход і ўздоўж афрыканскага берага Міжземнамор'я да Гібралтара і Іспаніі мусульмане знаёміліся ў заваяваных краінах з развітым мастацтвам, запазычвалі яго прыёмы, прыстасоўвалі да сваіх рэлігійных і культурных патрэб. Мастацкі сімбіёз найбольш яскрава праявіўся ў архітэктуры, дзе бачны адбітак знайшлі візантыйскае, персідскае і егіпецкае мастацтва.

Напачатку арабаў задавальнялі звычайныя збудаванні, якія яны прыстасоўвалі для культавых патрэб. Аднак, калі халіфат сфармаваўся ў сусветную дзяржаву, будаўніцтва мячэцяў робіцца справай дзяржаўнай важнасці.

З функцыянальнага пункту гледжання для мячэці падыходзіць любое памяшканне, дзе маглі б сабрацца людзі для малення. У сценцы, звернутай да Меккі, рабіліся невялікая ніша ці фальшывыя дзверы, міхраба альбо кібла. Справа ад яе — мумібір, узвышэнне накшталт кафедры ці амбона. Пабудову акружаў прасторны двор (гарам), абкружаны крытымі галерэямі. Пасярод двара знаходзіўся басейн ці фантан для амавення. Абавязковым атрыбутам з’яўляліся таксама мінарэты. Па структуры планіроўкі мячэць мела агульныя рысы з храмамі старажытнага Егіпта, антычных дзяржаў Міжземнамор’я, хрысціянскіх цэркваў Візантыі. Агульнай для ўсіх іх з’яўлялася арганізацыя прасторы па тыпу жылога дома ці гарадской вілы: будынак з унутраным дваром (атрыу-

мам) і басейнам. Напрыклад, буйныя цэрквы Візантыі мелі звязаны з будынкам двор (наас) і чашу з вадой у цэнтры (фіял).

Якога-небудзь тыповага плана мячэці арабы не стварылі. Яны з большай ахвотай пераабсталёўвалі цэрквы, іншы раз аддзяляючы для сваіх патрэб толькі частку жытла чужога бога, пакідаючы астатняе для карыстання гаспадарам. І ўсё ж у архітэктуры мячэцяў Усходу можна вылучыць два тыпы:

1) прасторны квадратны двор, абнесены па перыметры крытымі галерэямі, якія з аднаго боку ідуць у некалькі радоў (мячэць Амру ў Каіры);

2) збудаванні, блізкія да візантыйскіх цэнтрычна-купальных цэркваў з прымыкаючым дваром (мячэць Мухамеда ІІ у Канстанцінопалі).

І ў адным, і ў другім не было нейкіх спецыяльна вынайдзеных канструкцыйных сістэм. Варта толькі адзначыць шырокае распаўсюджанне арак. Як і ў хрысціянскіх цэрквах, яны выкарыстоўваліся для чляненне вялікіх прастор і падтрымкі купалаў. Візантыйская паўцыркульная арка замяняецца стрэльчатай падковападобнай. Для нарошчвання вышыні арачныя сістэмы ставіліся адна на другую.

Перакрыцці дваровых галерэй былі альбо плоскімі, альбо купальнымі. Прасторныя купальныя перакрыцці маглі дапаўняцца паўкупаламі накшталт эксэдраў візантыйскіх цэркваў. Аздабленне перакрыццяў складала так званае сталактытавае пакрыццё, якое мела, акрамя ўсходняга дэкаратыўнага каларыту, яшчэ і пэўны канструкцыйны сэнс, забяспечваючы плаўны пераход ад плоскіх форм да сферычных. Мяркуецца, што сталактытавая аздоба нарадзілася ў архітэктуры Сасанідскага Ірана. Там кесанірованыя нішы ствараліся лініямі перасячэння канцэнтрычных арак, якія паступова змяншаліся па меры аддаленасці ад купала. Гэты прыём арабы перанеслі на карнізы, фрызы, сафіты, капітэлі калон, скрозь пакрывалі

столь і скляпенне купалаў. Эфект шматразова ўзмацняўся за кошт фарбавання і залачэння.

Абстрагаваныя формы расліннага свету сталі характэрнай рысай дэкаратыўнай пластыкі дойлідства арабаў, атрымаўшы спецыфічную назву — арабескі. Унутранае аздабленне дадаткова ўзбагачалася напісанымі куфічнымі літарамі — радкамі і сурамі карана. Увесь дэкор звычайна сканцэнтраваны ў інтэр’еры, у верхняй яго частцы. Сцены аздабляліся мармурам альбо кафлявай мазаікай і напаміналі ўзоры дываноў.

Знешняе аздабленне мячэці было больш сціплым: гладкія сцены, толькі купал і партал галоўнага ўвахода ўпрыгожваліся дэкорам.

Да найбольш старажытных адносяцца мячэці Аравіі, Сірыі і Палесціны. Галоўная святыня мусульманскага свету — Кааба ў горадзе Мекка пры Мухамедзе была перабудавана грэчаскімі ці копцкімі майстрамі.

Мячэць Эль-Акса ў Іерусаліме на гары Морыа нагадвае раннехрысціянскую царкву, завершаную купалам. Сем нефаў падзелены купаламі, на якія абапіраюцца стрэльчатыя аркі. Калоны злучаюцца гарызантальнымі бэлькамі з мэтай павелічэння вышыні і трываласці пры кароткім памеры калон, узятых з хрысціяскіх храмаў.

Мячэць Халіфа Валіда ў Дамаску перабудавана з базілікі Святога Іаана. Пры Амары ў ёй па чарзе праводзіліся хрысціянскія і мусульманскія богаслужэнні.

Найбольш яркім помнікам архітэктуры ранняга ісламу варта лічыць мячэць Амара ў Іерусаліме (688 г.). Узведзена халіфам Абдэльмелікам на месцы старажытнага храма Саламона. Мячэць знаходзіцца сярод прасторнага двара, абкружанага галерэямі, у плане нагадвае васьмікутнік. Чатыры масіўныя слупы падтрымліваюць купал з нізкім барабанам (каля 20 метраў у дыяметры). Паміж слупамі — калоны карынфскага ордэна, яны таксама шырока ўжыты ў галерэях. Арабская назва мячэці Рубэт-эль-Сохра — купал над каменем. Справа ў тым, што

алтаром мячэці з’яўляецца вяршыня гары Морыа, якая была алтаром і ў храме Саламона. Пад каменем знаходзіцца невялікая пячора, у якую нібыта спускаліся на малітвы Давід і Саламон. Першапачаткова мячэць мела плоскую столь. Купал, аснову якога складае драўляная канструкцыя, з’явіўся ў X стагоддзі.

У Егіпце арабы пазнаёміліся з характэрнай для старажытнай архітэктуры гэтай краіны сістэмай канструкцый. У якасці асноў купалаў тут ужываліся масіўныя слупы, злучаныя стрэльчатымі аркамі. Мячэць Амру ў Каіры (643 г.) мае квадратны ў плане двор з даўжынёй стараны каля 50 метраў, абкружаны галерэямі. Колькасць галерэй па баках неаднолькавая. З боку, звернутага да Меккі, іх шэсць, з супрацьлеглага — адна. Варта ўспомніць таксама мячэць Ібн-Тулуна (889 г.), а таксама шматлікія ўсыпальніцы халіфаў у прадмесці Бобр-эль-Наср.

На працягу трох стагоддзяў арабы гаспадарнічалі на Сіцыліі (з 877 г.). Але пакінутыя тут імі помнікі былі з цягам часу перабудаваны. Паблізу Палерма, у замках Цыза і Куба, захаваліся кафлева-мазаічныя падлогі, калоны з відазмененымі ў арабскім гусце карынфскімі капітэлямі, сталактытавым убранствам столяў, ляпнінай на сценах, басейнам з фантанам у цэнтры залы.

У VIII стагоддзі арабы з’яўляюцца ў Іспаніі, ствараюць тут асобны халіфат і гаспадараць пяць стагоддзяў. У XIII стагоддзі іх уладанні скараціліся да памераў каралеўства ў Грэнадзе, якое толькі ў 1492 годзе спыніла сваё існаванне. Ізаляванасць ад мусульманскага свету спрыяла развіццю спецыфічнай архітэктуры маўрытанскіх мячэцяў.

Маўрытанскае дойлідства на Пірэнеях можа быць умоўна падзелена на тры этапы, прадстаўленыя канкрэтнымі помнікамі. Першы этап прадстаўляе вядомая мячэць у Кордаве — славуты помнік мусульманскай архітэктуры. Прасторны чатырохкутны двор абнесены з трох бакоў радамі арак. Асноўная частка прасторы падзелена на адзінаццаць нефаў, да якіх пазней дабудавалі яшчэ

восем. У глыбіні сярэдняга нефа — міхраб, васьмікутная ніша з паўкупалам, якая высечана з цэльнага каменя і нагадвае ракавіну. Мячэць налічвае 850 калон. Перапляценне арак, у якім чаргуюцца чырвоны і белы колеры, надае інтэр'еру мячэці адчуванне бясконцасці прасторы, таемнасці і неспасцігальнасці сусвету.

Другі этап прадстаўляе вежа Геральда і Альканзар у Севільі, дзе назіраецца спроба спалучыць рысы ўзорыстай архітэктуры Усходу з прадыктаванымі функцыянальнай неабходнасцю формамі.

Трэці этап прадстаўлены палацам Альгамбра і Генераліф у Грэнадзе. У палацы Альгамбра, размешчаным у грэнадскай цытадэлі, традыцыі арабскай архітэктуры атрымалі далейшае развіццё: перыметрычная планіроўка з басейнам і фантанам у цэнтры, незвычайны росквіт дэкору сведчаць аб багатым вобразным успрыняцці свету.

Асобна трэба спыніцца на архітэктуры турэцкіх мячэцяў, якая зрабіла вялікі ўплыў на мусульманскае дойлідства шмат якіх краін. На архітэктуру сельджукаў рашаючае ўздзеянне аказалі культура Візантыі, армянскае дойлідства, дойлідства сасанідскага Ірана. У першую чаргу армяна-візантыйскі ўплыў праглядваецца ў шырокім выкарыстанні купалаў і вастраверхіх шатровых стрэх (у мінарэтах). З усталяваннем асманскага панавання (1326 г.) візантыйскі тып кладкі сцен змяняецца кладкай з ачэсаных камянёў. Набывае распаўсюджанне стракатая абліцоўка сцен рознакаляровымі матэрыяламі. Галоўнай асаблівасцю мусульманскіх культавых пабудоў гэтага перыяду з'яўляецца асваенне візантыйскай цэнтрычнакупальнай сістэмы на квадратным плане.

У 1453 годзе туркі заваёўваюць Канстанцінопаль. Славуты храм Святой Сафіі перааблсталёўваецца ў мячэць (знешне гэта адлюстравана ў прыбудове стромкіх трох'ярусных мінарэтаў з вастраверхімі стрэхамі), якая становіцца ўзорам магаметанскай архітэктуры.

У канструкцыйных адносінах у мячэцях Малой Азіі вылучаліся два тыпы: першы вызначаны прамым уплывам Святой Сафіі — у плане выцягнуты чатырохкутнік, сярэдняя прастора якога перакрыта безбарабанным купалам; другі грунтаваўся на планіроўцы, блізкай да грэчаскага крыжа, над цэнтральнай часткай якога ўзвышаўся купал (мячэць Мухамеда 1463-1469 гг., узведзеная візантыйскім дойлідам Хрыстадулам). За час турэцкага панавання ў Канстанцінопалі (Стамбуле) было ўзведзена каля трохсот мячэцяў, сярод іх дваццаць так званых джама, гэта значыць узведзеных па загадзе султана.

Значныя помнікі мусульманскай архітэктуры ў Іране з'явіліся ў канцы XIV стагоддзя пры дынастыі Тамерланаў. У іх знайшло моцны адбітак асманскае дойлідства і ў першую чаргу архітэктура перабудаванай Святой Сафіі. Характэрнай асаблівасцю мячэцей Ірана з'яўляецца шырокая і плоская сцяна партала са стрэльчатым праёмам увахода. Па баках партал фланкіраваўся мінарэтамі. Як усярэдзіне, так і звонку мячэці Ірана аздабляліся разьбой па камені і каляровай кафляй (мячэць Уль-Джэмі ў Эрзэруме і інш.).

У Індыю мусульманская культура і мастацтва трапіла праз Іран. Помнікі ісламскай архітэктуры тут адносяцца да перыяду дынастый Вялікіх Маголаў і Цімура (1526 г.). Мячэці тут таксама ўяўлялі сабой прасторныя двары, абнесеныя галерэямі. З боку ўвахода — высокая сцяна партала з мінарэтамі, завершанымі характэрнымі вежачкамі. Прасторныя памяшканні мелі купальныя завяршэнні. Але тут у адрозненне ад шматкаляровай мазаікі Ірана звонку дэкор быў больш стрыманы. Плоскасці сцен перасякаліся сістэмай вертыкальных і гарызантальных цяг, што было традыцыйна для старажытных помнікаў індыйскай архітэктуры. Затое ўсярэдзіне мячэць багата аздаблялася каменнай разьбой, маёлікай, золатам, бронзай (маўзалей Тадж-Магал у Агры).

Мусульманская архітэктура Сярэдняй Азіі з'яднала ў

сабе шматлікія гістарычныя рысы і ў спалучэнні з мясцовымі традыцыямі выпрацавала арыгінальныя тыпы формаў, кампазіцыі, дэкору. У комплексе мячэцяў, маўзалеяў, медрэсэ характэрныя для Усходу перыметрычнасць забудовы, шырокія плоскасці сцен, прарэзаныя стрэльчатымі нішамі, шлемападобныя купалы (у найбольш старажытных збудаваннях, не маючых апорных барабанаў, уласцівых пазнейшым помнікам), мінарэты з глаўкамі. У дэкоры — раслінныя, геаметрычныя матывы, куфічныя надпісы, шырокае ўжыванне маёлікі, эмаляў, кафлі. Тэракотавыя фарбы сцен удала спалучаюцца з блакітнымі купаламі (з'яўляюцца з XV стагоддзя). Акрамя нацыянальных рыс тут бачны і стылёвыя рысы мусульманскай архітэктуры Ірана, Індыі, Афганістана: маўзалей Абу-Саніда ў Меоне (Туркменістан, XI ст.); комплекс Хакім-ат-Тэрмізы ў Тэрмезе (Узбекістан, XI-XV стст.); маўзалей Саманідаў IX-X стст., мячэць Калян XII ст., ансамбль Чар-Бакр XVI ст. у Бухары; маўзалей Шахі-Зінда XII-XIV стст., мячэць Бібі-Ханым XIV-XV стст., маўзалей Гурэмір XV ст., медрэсэ Гілля-кары XVI ет. у Самаркандзе; джама-мячэць з драўлянай каланадай XI ст., комплекс Пехлеван Махмуда XIV-XIX стст. у Хіве.

Першыя мячэці ў Вялікім княстве Літоўскім сталі з'яўляцца ў месцах аседласці татар, перавезеных Вітаўтам з Залатой Арды. Пры Вітаўце існавалі мячэці ў Сарака Татарах, Лукішках і Некрашунцах. Мячэці ў Сарака Татарах, Лукішках, а таксама ў Лоўчыцах і Троках упамінаюцца ў напісаным невядомым аўтарам у 1558 годзе трактаце пра татар Беларусі. Мячэць у Троках была вядома і польскаму хроніку Марціну Крамеру, які пісаў пра яе ў 1578 годзе. Нарэшце, турэцкі гісторык Ібрагім Печэві (памёр у 1640 годзе) паведамляе, што ў царстве польска-літоўскім у першай трэці XVII стагоддзя налічвалася 60 мячэцяў. Польскі даследчык Рычард Брукоўскі на падставе аналізу розных публікацый мяркуе,

што ў Вялікім княстве мелася 17 мячэцяў і ў Польшчы (Кароне) — 6.

Прывілеі на будаўніцтва выдаваліся Вялікім князем з дазволу караля. Рашэнне і дазвол залежалі таксама і ад згоды каталіцкага біскупа мясцовай дэцыі. Напрыклад, віленскі біскуп дазваляў татарам будаваць мячэці толькі драўляныя, «убогія, невялікія». Турэцкі султан Мурад III у пісьме да польскага караля Зыгмунда III у 1592 годзе прасіў не перашкаджаць «... у справе свабоднага будаўніцтва мячэцяў у калоніях татарскіх на Літве».

У час рэлігійных войнаў, якія то тут, то там успыхвалі ў Польшчы, культавыя пабудовы «бусурман» і іншых «няверных» часта падвяргаліся разгрому і знішчэнню. Другога ліпеня 1609 года натоўп у час каталіцкага свята ў Троках разбурыў мясцовую мячэць. Віленскі біскуп Бенедзікт Война (1600-1619) не дазваляў татарам ні будаваць, ні рамантаваць мячэці. Аналагічным было становішча і ў аддаленых правінцыях. Так, Галіцкі сеймік двойчы, у 1666 і 1667 гадах, учыняў пастановы, якія забаранялі пад пагрозай канфіскацыі маёмасці будаваць мячэці ў маёнтках. У 1673 годзе паўстаўшыя татары вымусілі гетмана Сапегу заключыць пагадненне аб ліквідацыі перашкод для мусульманскага веравызнання і будаўніцтва мячэцяў. Аднак на заканадаўчым узроўні перашкоды былі ліквідаваны толькі ў 1768 годзе. Прынятая ў гэтым годзе канстытуцыя дазваляла татарам рамантаваць старыя мячэці, а канстытуцыя 1775 года дазваляла татарам будаўніцтва мячэцяў як ва ўласных уладаннях, так і ў каралеўскіх.

Першы спіс мячэцяў у Рэчы Паспалітай у 1795 годзе налічваў 23 мячэці і 5 у іншых мясцінах па-за яе межамі. Алі Вархановіч у артыкуле, надрукаваным у 1937 годзе, адзначае, што на той час мелася 17 мячэцяў і 3 малітоўныя дамы.

Гісторык Станіслаў Крычынскі паведамляў, што напярэдадні падзелу Польшчы ў 1795 годзе мячэці існавалі

ў многіх вёсках і мястэчках, прыводзіць даты іх пабудовы, пацверджаныя дакументальна, дае адрасы, згодна з тагачасным адміністрацыйна-тэрытарыяльным падзелам:

Трокскі павет: Базары (1685-1719), Гудзяны (1646-1680), Хусейманы (1671-1699), Панары (1699), Прудзяны (1588, разбурана французамі ў 1812 годзе), Рэйзы (1556), Сінькевічы (1699), Салкенішкі (1615), Сорак Татар (1558), Трокі (1558, разбурана 2 ліпеня 1609 года);

Віленскі павет: Кена (1615-1631), Лукішкі (1558), Меражляны (1615-1699), Немец (1684);

Гродзенскі павет: Бажанкі, Крыжыньяны (1679);

Лідскі павет: Некрашунцы (паводле падання, парафія закладзена ў 1415 годзе, метрыкі да 1713 года);

Ашмянскі павет: Даўбуцішкі (1588);

Навагрудскі павет: Лоўчыцы (парафія закладзена, паводле падання, каля 1420 года, першая ведамасць пра мячэць датуецца 1588 годам), Навагрудак (прывілей на будаўніцтва мячэці 1792 года, мячэць была пабудавана ў 1796 годзе);

Мінскі павет: Мінск-Літоўскі (мячэць фундавана ў XV стагоддзі, пабудавана ў 1599 годзе);

Брэст-Літоўскі павет: Студзёнка (мячэць узведзена ў 1679 годзе, спалена ў 1915).

Такім чынам, з прыведзеных С. Крычынскім звестак відаць, што да 17,95 года на тэрыторыі Вялікага княства налічвалася 23 мячэці. Акрамя іх, мелася яшчэ 65 татарскіх малітоўных дамоў. Найбольшая колькасць мячэцяў прыходзілася на Трокскі павет. Да канца XVIII стагоддзя межы татарскай аседласці, якая ўжо мела выгляд кампактнай групы, абазначаліся гарадамі Вільна, Навагрудак, Мінск, Полацк. Значныя аседласці складаліся ў раёнах гарадоў Гродна, Беласток, Варшава. Для параўнання пералічым мячэці ў паўднёвых землях Вялікага княства, напрыклад, на Валыні меліся мячэці ў Астрозе (1565-1569, існавала да канца XVIII стагоддзя), у Юр-

кавічах, у маёнтку Астрожскіх (закладзена ў 1681 годзе, існавала да другой паловы XIX стагоддзя). На Падоллі ў XVII-XVIII стагоддзях мячэць была ў Немiровічах.

С. Крычынскі, спасылаючыся на паданні, паведамляе, што недзе пад Слонімам у мячэць была пераабсталявана царква. І наадварот, у Лахве пад Лунінцом, у татарскай аседласці на землях Радзівілаў, мячэць была пераабсталявана ў царкву.

Пасля далучэння зямель Беларусі да Расійскай імперыі справа будаўніцтва і рамонту мячэцяў паступова пачынае прыходзіць у заняпад. Указ ад 23 жніўня 1756 года дазваляў адкрываць магаметанскія прыходы толькі там, дзе колькасць мусульман мужчын была не меней за дзвесце чалавек. Указам ад 2 жніўня 1870 года забаранялася будаўніцтва мячэцяў без папярэдняга падліку вернікаў.

Дэпартамент дзяржаўнай гаспадаркі і публічных будынкаў Міністэрства ўнутраных спраў Расійскай імперыі ад 31 мая 1829 года выдаў прадпісанне «Аб правілах будаўніцтва татарскіх мячэцяў». Яно абавязвала «...магаметан будаваць мячэці згодна з планамі і фасадамі, ад урада дадзеных... даручана было будаўнічаму камітэту Міністэрства ўнутраных спраў... скласці для іх узорны план і фасад... для пабудовы мячэцяў заўсёды лепей прызначаць месцы на плошчах, а дзе плошчаў няма, то ставіць іх на адлегласці не меней за 10 сажаняў ад збудаванняў».

З гэтага часу, каб пабудаваць ці адрамантаваць мячэць, татары паселішча ці агола абавязаны былі падаваць у губернскае праўленне хадайніцтва, атрымаць згоду Таўрычаскага магаметанскага духоўнага праўлення, атрымаць і зацвердзіць у будаўнічым аддзяленні губернскага праўлення праект. У якасці прыкладу раскажам, як вырашалася пытанне аб будаўніцтве мячэці ў мястэчку Смілавічы. «Журнал Мінскага губернскага праўлення, ліпеня 28 дня 1856 года. Загадалі: паколькі ў мястэчку

Смілавічы па сцвярджэнні Ігуменскага земскага суда няма ніводнай мячэці і па прадстаўленні смілавіцкага магаметанскага мулы аб неабходнасці пабудаваць новую драўляную мячэць, Таўрычаскае магаметанскае духоўнае праўленне паведаміла пра адсутнасць з яго боку на такую пабудову перашкод, то таксама маючы на ўвазе, што смілавіцкае магаметанскае грамадства хадайнічае аб дазваленні пабудаваць, згодна з прадстаўленым планам, мячэць, маючы дастатковыя сродкі для адпаведнага яе ўтрымання, губернскае праўленне лічыць на падставе 223 артыкула, тома XII Статута будаўнічага дазволіць пабудаваць новую драўляную мячэць у мястэчку Смілавічы».

Хатып Ляхавіцкай саборнай мячэці Слуцкага павета Самуіл Бекіраў Варановіч звяртаўся ў Мінскае губернскае праўленне з наступным хадайніцтвам: «Ляхавіцкая саборная мячэць патрабуе некаторага неабходнага рамонту, а менавіта падвалін, ашалёўкі сцен звонку, вокнаў і страхі. З прычыны хадайніцтва аб тым прыхаджан, заяўляючы губернскаму праўленню, пакорліва прашу каму належыць зрабіць агляд неабходнага рамонту і даць такі дазвол на гэтую справу».

У 30-я гады нашага стагоддзя, па звестках С. Крычынскага, на тэрыторыі Беларусі, Польшчы і Літвы налічвалася ўсяго 17 мячэцяў і 2 малітоўныя дамы. Вось іх пералік:

Бажанкі, павет Сакольскі — прыход з 1795 года, мячэць узведзена на пачатку XX стагоддзя;

Даўбуцішкі, павет Маладзечанскі — прыход з 1588 года, мячэць пабудавана ў XVIII стагоддзі;

Клецк, павет Нясвіжскі — мячэць 1881 года, прыход заснаваны ў 1886 годзе. Пляц пад мячэць ахвяраваў фундатар (вакуф) Якуб Якубоўскі ў 1880 годзе. Драўніну для будаўніцтва даравалі князі Радзівілы. Мячэць рамантавалася ў 1911, 1930-1931 гадах;

Крыжыньяны, павет Гродзенскі — прыход заснаваны

недзе ў 1679 годзе, фундатары — Кржычоўскія. Мячэць старой пабудовы;

Ляхавічы, павет Баранавіцкі — мячэць пабудавана ў 1815 годзе, разбурана ў 1917, у 1924-1928 гадах узноўлена на ахвяраванні «савету фундушовага»: татараў, эмігрыраваўшых у Амерыку, віленскага муфціята, егіпецкага караля;

Лоўчыцы, павет Навагрудскі — прыход заснаваны, згодна з паданнем, каля 1420 года, мячэць з 1588 года. Існуючая мячэць закладзена недзе ў 1688 годзе;

Мядзель, павет Пастаўскі — мячэць пабудавана ў 1840 годзе, спалена ў гады грамадзянскай вайны, адбудавана зноў у 1930 годзе;

Мір, павет Стаўбцоўскі — мячэць пабудавана да 1795 года. Адбудавана зноў у 1840 годзе. Рамантавалася ў 1925 і 1928 гадах;

Мураўшчызна, каля Іўя — С. Крычынскі паведамляе, што да пабудовы тут мячэці татары маліліся па стадолах (гумнах). Мячэць пабудавана ў 1884 годзе з фундацыі Эльвіры Аўгустаўны Замойскай, уладальніцы мястэчка Іўя. На грошы эмігрыраваўшых у Амерыку татар, якія прыслалі ў 1922 годзе 500 долараў, дабудаваны мінарэт і галерэя;

Некрашунцы, павет Лідскі — прыход заснаваны, паводле падання, у 1415 годзе. У верасні 1915 года мячэць была спалена. Адбудавана ў 1926 годзе;

Немец, павет Віленска-Трокскі — прыход з 1684 года, мячэць пабудавана ў 1909 годзе пасля таго, як згарэла папярэдняя;

Навагрудак — у 1792 годзе Станіславам Аўгустам быў выдадзены прывілей на будаўніцтва мячэці. Апошняя пабудавана была праз чатыры гады, у 1796 годзе. Адноўлена на сродкі Аляксандра Асановіча ў 1855 годзе;

Асмолава, павет Навагрудскі — прыход з 1834 года, паводле метрыкі, мячэцць пабудавана ў 1924-1925 гадах;

Слонім — мячэць пабудавана ў 1804 годзе з адным мінарэтам і купалам, 25 мая 1881 года згарэла, праз год адбудавана з дрэва, ахвяраванага Францыскам Пухавіцкім з Альберціна;

Сорак Татар, павет Віленска-Трокскі — прыход заснаваны да 1558 года, мячэць пабудавана ў 1815 годзе;

Відзы, павет Браслаўскі — прыход з 1819 года, мячэць пабудавана ў 1860-1865 гадах на землях, адышоўшых да мястэчка. У гады грамадзянскай вайны была спалена і адбудавана зноў у 1930-1932 гадах;

Вільно — прыход у Лукішках, заснаваны да 1558 года, мячэць пабудавана ў другой палове XIX стагоддзя. Рамантавалася ў 1897, 1917 і 1936 гадах.

Акрамя пералічаных мячэцяў, мусульманскія дамы малітвы меліся ў Дзісненскім павеце, у Докшыцах, пабудова 1925-1926 гадоў, прыход створаны пасля грамадзянскай вайны, у Глыбокім, пабудова 1930 года на зямлі, ахвяраванай Аляксандрам Канапацім і на складчыну прыхаджан Докшыцкага прыхода.

Акрамя пералічаных С. Крычынскім, існавалі мячэці і ва Усходняй Беларусі: у Смілавічах, Уздзе, Капылі, Менску, пабудовы XIX — пачатку XX стагоддзя.

Вядома карта, складзеная ў 1933 годзе Алі Смяйковічам, на якой паказана размяшчэнне татарскіх асад на землях Польшчы, Літвы і Беларусі. На ёй абазначаны 20 мячэцяў, з якіх ілюстраваны малюнкамі 19.

На сённяшні дзень захавалася чатыры мячэці: у Доўбучках Смаргонскага раёна (перавезена ў Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту), у г. п. Іўе, у Навагрудку і ў вёсцы Лоўчыцы Навагрудскага раёна.

Аўтар трактата пра татар Беларусі (канец XVI стагоддзя) так характарызаваў мясцовыя мячэці: «...убогія і нізкія мячэці пабудаваны з дрэва ... без мінарэтаў (веж) і імарэтаў (прытулкаў)... Для жанчын у некаторых тутэйшых мячэцях ёсць асобнае месца, аддзеленае ад мужчын-

скага, куды яны не маюць права заходзіць...» У 1551 годзе невядомы аўтар дзяліўся сваімі ўражаннямі аб мячэці ў Лукішках: «...Няма ў ёй ...а ні якога бога, ані чорта. Голыя тут сцены, падлога толькі тонкімі дыванамі заслана...»

Абодва гэтыя на першы погляд сціплыя паведамленні маюць і некаторыя надзвычай важныя характарыстыкі. Так, мабыць, раннія мячэці Беларусі і Літвы не мелі мінарэтаў і заклік да набажэнства (азан) муэдзін абвяшчаў з ганку ці хадзіў па вуліцах і склікаў вяскоўцаў. Як гэта ні дзіўна, але выкарыстоўваліся і званы. У вышэйпрыведзеных сведчаннях пра Лукішскую мячэць ёсць і такі запіс: «...біццё ў звон не мае параўнання». Аўтар трактата 1588 года таксама адзначаў: «У некаторых мячэцях званы ў пэўным сэнсе ёсць звычай перад намазам...»

Драўляныя татарскія мячэці мелі ў сваёй архітэктуры мясцовыя рысы ці, як пісаў С. Крычынскі, «будавалі іх па мясцовай модзе». Вядомая па манаграфіі 1841 года мячэць у Лукішках уяўляла сабой «... моцны квадратны зруб з калоннай падсенню, накрыты стромкаю страхою са сціплым мінарэтам пасярэдзіне. Такая мячэць, квадратная, са стромкай страхой, маленькай вежачкай пасярэдзіне, але без падсені ёсць у Сарака Татарах. У гэтым самым стылі ёсць мячэць у Бахоніках, ...падобная на «пагадкі кітайскія»... мячэць у Мураўшчызне, пабудаваная ў форме квадрата з ганкам, на высокіх слупах... не вельмі высокі мінарэт з галерэйкай ... завяршае лініі масіўнай страхі». Далей С. Крычынскі пісаў: «Некаторыя мячэці (у Ляхавічах, Клецку, Некрашунцах) нагадваюць сваім выглядам... вясковыя касцёльчыкі. Іншыя, пабудаваныя майстрамі-яўрэямі, блізкія па сваёй архітэктуры да сінагог (мячэць у Асмолаве). Мячэць у Слоніме, з трыма цыбулістымі вежачкамі, ёсць быццам бы копія праваслаўнай царквы». С. Крычынскі адзначыў дзве мячэці, якія выдзяляліся значнымі памерамі: у Навагрудку і Мураўшчызне.

У татар Беларусі і Літвы, як і ў краінах Усходу, мячэці буйных прыходаў называліся джама, джэмія. Вядома, што такімі з'яўляліся мячэці ў Лоўчыцах, Мураўшчызне, Доўбучках. Як і ў іншых краінах мусульманскага свету, у такіх мячэцях штодзённа ажыццяўлялася богаслужэнне за халіфа — хутбэ. Да джама-мячэцяў пазней далучыліся мячэці Ляхавіцкая і Віленская.

Асаблівасцю мячэцяў Беларусі і Літвы быў падзел унутранай прасторы на дзве часткі: мужчынскую і жаночую. У краінах мусульманскага Усходу такі падзел адсутнічае. Па традыцыі там жанчыны моляцца дома. Спасылаючыся на версію аўтара трактата 1558 года пра татар Беларусі, С. Крычынскі пісаў, што, магчыма, гэтая асаблівасць узыходзіць да старажытных традыцый жытла кіпчакоў: «...дом татарскі ў стэпах Уфімскіх падзелены на дзве часткі: мужчынскую і жаночую». Памяшканне для жанчын знаходзілася звычайна з левага боку ад увахода і было значна меншых памераў, чым памяшканне для мужчын (у Іўеўскай мячэці жаночая палова размешчана з правага боку). У падзяляючай мужчынскую і жаночую паловы сцяне мелася закратаванае працяглае акно. Кожная палова мела свой уваход.

Набажэнства праводзілася ў мужчынскай частцы. Тут, у сцяне, звернутай да Меккі, мелася зрубная ніша — алтар (міхраб, альбо кібла). Тварам да яе ў час набажэнства сядзеў мула. Справа ад міхрабы накшталт кафедры ці царкоўнага амбона мелася ўзвышэнне з прыступкамі і навесам — балдахінам на слупах — мумібір. Адсюль да прыхаджан звяртаўся мула пад час урачыстых выпадкаў, калі зачытваў важныя дакументы, якія датычыліся і свецкага жыцця, абвяшчаў малітвы за здароўе (хутбэ). Звычайна мумібір меў тры прыступкі. Сем ці дзевяць прыступак мелі мумібіры буйных мячэцяў. Мячэць у Лоўчыцах мела мумібір з трыма прыступкамі, у Немцы — з чатырма, а ў Доўбучках — з дзевяццю прыступкамі. Акрамя разьбярскай апрацоўкі слупоў і парэнчаў, мумібір

упрыгожвалі надпісамі (радкі з карану). Тут можна было знайсці і імя дойліда (Лоўчыцы), і дату ўзвядзення мячэці (Ляхавічы).

У верхняй частцы сценкі, што падзяляла мужчынскую і жаночую паловы, рабіўся балкон-галерэйка накшталт царкоўных хораў. Цэнтральная частка галерэйкі, як правіла, выступала наперад (Іўе, Доўбучкі) і была месцам муэдзіна. Тут таксама знаходзілася і моладзь, што прыходзіла на набажэнства.

Падлога мячэці засцілалася зялёнымі ваўнянымі дарожкамі-кілімамі. У прамежках паміж імі клаліся круглыя тканыя коўдры-чалуны. Іх ахвяравалі сваякі памерлых. На чалунах вышывалася імя, прозвішча і дата смерці чалавека, у гонар якога было зроблена ахвяраванне. Каля сцен — лавы і табурэты для старых і хворых.

Аздабленне сцен складалі так званыя мухіры: дываны з выявамі вядомых мячэцяў, у зашклёных рамах палотны з тканымі ці вышытымі радкамі тэкстаў карана, імёнамі прарокаў, літаграфічнымі выявамі Меккі і Медзіны, Каабы, сцягамі і сімваламі. Літаграфічныя насценныя выявы атрымалі ў Беларусі шырокае распаўсюджанне ў мінулым стагоддзі. Іх прывозілі сюды татары з Волгі. Насценнае аздабленне дапаўнялі змешчаныя ў рамы пад шклом спадчынныя акты на карысць мячэці (тэстаменты), памятныя дошкі ў гонар фундатараў. Такая мармуровая дошка была ўстаноўлена ў Навагрудскай мячэці ў гонар Аляксандра Асановіча, які аднавіў мячэць у 1855 годзе. Мармуровая дошка ў гонар Эльвіры Аўгустаўны Замойскай была ўстаноўлена таксама ў Мураўшчынскай мячэці. Вывешваліся на сценах і акты з датамі адкрыцця прыхода.

Набажэнства ў мячэці праводзілася ў асноўным у дзённы час, прыкладна з 12 да 14 гадзін. Але ў час посту Рамадана праводзіліся вячэрнія і начныя намазы. Для асвятлення мячэці ў гэтых выпадках выкарыстоўваліся так званыя драўляныя ліхтары. Яны нагадвалі звычай-

ныя падсвечнікі, выконваліся часцей такарным спосабам і мелі вышыню ад некалькіх вяршкоў да аднаго-двух аршынаў. Два такія ліхтары абавязкова ставіліся па баках міхрабы, асвятляючы месца мулы. Астатнія ставіліся альбо каля сцен, альбо там, дзе стаялі людзі з каранам у руках. Злева ад міхрабы нізка над падлогай знаходзілася невялічкая палічка для свяшчэнных кніг (карана), якая завешвалася зялёным сукном.

У жаночай палове падлога была таксама заслана кілімам. У кутку — паліца для ахвярных пачастункаў у дзень садагі. На сценах іншы раз віселі пахавальныя вяночкі. Як і ў мужчынскай палове, віселі мухіры.

Сцены і столь мячэці, як правіла, не шаляваліся і не фарбаваліся, сцены маглі завешвацца звычайнай посцілкай. Белы колер успрымаўся як колер ісціны і носьбіт боскай чысціні. Над дзвярыма, абапал нішы — міхрабы, рабіліся ці вешаліся ў спецыяльных рамках літаграфічныя надпісы: «Алах — бог усёмагутны, літасцівы, міласэрны; няма бога акрамя Алаха, прарок божы — Мухамед». Такія надпісы рабіліся таксама і на сценах, суконных пакрывалах лаў.

Разгледзім некаторыя тыпалагічныя асаблівасці архітэктуры мячэцяў Беларусі на падставе фотаматэрыялаў Станіслава Крычынскага, малюнкаў Чэслава Пяткевіча, архіўных матэрыялаў і тых помнікаў, якія захаваліся.

Найбольш простым тыпам была мячэць з планам, блізкім да квадрата. Прыкладам яго з'яўляецца архітэктурнае рашэнне мячэці ў мястэчку Сорак Татар (1815 г.). Яна мела ашаляваны зруб, умацаваны лісіцамі і ўвенчаны шатровай дранкавай страхой з цыбулепадобнай макаўкай. Знешні выгляд яе надта падобны да архітэктуры шырока распаўсюджаных так званых клецкіх цэркваў, названых так таму, што ў аснове іх аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі ляжыць зруб нефа (клець). Вядома, што мячэць не мела прыруба-міхрабы. Аконныя праёмы выкананы

ў традыцыях драўлянага культавага дойлідства, гэта значыць маюць рамы з дробнымі шыбкамі.

Пэўны крок у развіцці дадзенага тыпу быў зроблены пры будаўніцтве мячэці ў Лукішках пад Вільна (другая палова XIX стагоддзя). Тут да звычайнага зруба, завершанага шатровай страхой, далучаецца спецыфічны элемент архітэктуры мячэцяў — двух’ярусная слупавая галерэя. Аднак у цэлым архітэктурнае рашэнне не выходзіць за рамкі народна-традыцыйнага дойлідства, бо нагадвае шырока вядомы тып местачковага свірна — лямуса. Варта, напрыклад, прыгадаць лямус Брыгіцкага кляштара ў Гародні (1664). Да культавых атрыбутаў трэба аднесці шацёр з цыбулістаю глаўкай на барабане і мінарэт, завершаны ісламскай сімволікай.

Далейшае развіццё гэтага аб’ёмна-планіровачнага тыпу назіраецца ў мячэці ў Іўі (Мураўшчызна, 1884 г.). У Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве Літвы знойдзены праект мячэці, дзе паказаны блізкі да квадрата план, падзелены на мужчынскую і жаночую паловы. У левай, мужчынскай палове, ёсць пяціґранны прырубміхраба, побач паказаны і мумібір. З боку ўвахода — галерэя. Дадзена фасаднае рашэнне: ашаляваны ў «елачку» зруб, слупавая галерэя зроблена ва ўсю вышыню сцен з балюстрадай. Галерэя падтрымлівае навес-казырок. Шатровая страха пераходзіць у высокі, стромкі мінарэт на васьміграанным барабане з балкончыкамі (накшталт мінарэтаў турэцкіх мячэцяў). У пластычнай прапрацоўцы дэталяў, на чарцяжы (слупы галерэй, раскосы, балюстрада, праёмы ў барабане мінарэта) бачна спроба архітэктара знайсці нейкае стылёвае рашэнне, характэрнае для драўляных пабудоў канца XIX — пачатку XX стагоддзя. Ва ўсякім разе, у ашаляваным фасадзе згадваюцца рысы распаўсюджанага ў гэты час стылю мадэрн. Праектам прадугледжвалася, што накрыта мячэць будзе бляхай. Зухаватая, з адценнем «узорнасці» архітэктура мячэці адпавядала будаўнічым нормам таго часу.

Аднак і ў тыя часы не ўсё атрымлівалася так, як малявалася на праектах. На малюнку, змешчаным у манаграфіі Ч. Янкоўскага, добра відаць, што мячэць была пабудавана са значнымі адхіленнямі: адсутнічае шалёўка, сцены сцягнуты лісіцамі, з боку ўвахода — прыруб з двухсхільнай страхой, за якім прыбудова да сцяны на палову вышыні галерэі; іншы малюнак вокнаў, замест бляхі — гонта; замест «узорнай» архітэктуры — традыцыйныя прыёмы народнага цяслярства. Мячэць абнесена жэрдкавай агароджай. Мабыць, некаторы час мячэць стаяла без мінарэта. Успомнім паведамленне С. Крычынскага пра тое, што мінарэт быў дабудаваны ў 20-я гады на ахвяраванні татар-эмігрантаў. Мячэць перанесла некалькі рамонтаў. Падчас апошняга, у 70-я гады, галерэя была цалкам зашыта, сцены ашаляваны, гонта заменена бляхай, пашыраны прыруб, сцены і ліштвы вокнаў неаднаразова пераафарбоўваліся.

Мячэць у Іўі сёння адзіная дзеючая ў Беларусі. Усярэдзіне сцены і столь абшыты фанерай і пафарбаваны ў шэры і блакітны колеры, дзверы і ліштвы — у белы. Першапачатковa абшыўкі не было, сцены і столь не фарбаваліся. Каларыт інтэр'ера вызначаў натуральны колер драўніны.

У прырубе, падзеленым таксама на мужчынскую і жаночую паловы з асобнымі ўваходамі, наведвальнікі здымаюць абутак. Для гэтага каля сцен стаяць услончыкі. У мужчынскай палове ўся падлога заслана шэрым сукном. Пад галерэяй з балкончыкам для муэдзіна — лавы. Міхраб аздоблены разьбянымі ліштвамі, афарбаванымі ў белы колер. У сярэдзіне міхраба — акенца з ліштвамі, над ім у рамках — тэксты з сур карана. Злева — замацаваная на сцяне палічка для карана, занавешаная зялёным палатном. На падлозе — шырокі зялёны дыван з сукна. На ім яшчэ адзін невялікі дыван з воўны, а зверху трэці з каляровай выявай мячэці Сулеймана ў Стамбуле.

Мумібір на чатыры прыступкі з разьбянымі слупкамі і закратаванымі парэнчамі мае балдахін, упрыгожаны ісламскімі сімваламі. На прыступках зялёная суконная дарожка, на сцяне ў раме — малюнкі арабскіх тэкстаў, сцягоў і сімвалаў, ніжэй — дыван з выявай мячэці Каіт-Бея ў Каіры. Справа ад мумібіра, на сцяне,— выява арабскіх тэкстаў, сімвалаў, ніжэй — дыван з выявай мячэці, такі ж, як у мумібіры. Побач — дзве зашклёныя рамы, у якіх намаляваны на паперы сцягі, сімвал сонца, унізе — серп паўмесяца, выява мячэці, манаграмы, ваенная атрыбутыка (гарматы, коп'і, сякеры). На сумежнай сцяне — у раме вышытыя на тканіне залатой і срэбнай ніццю кубічныя пісьмёны ў серабрыста-залатым абкладзе. У зашклёнай раме намаляваны акварэллю від мячэці Сулеймана ў Стамбуле. Каля ўвахода на сцяне вісіць дыван з выявай мячэці з трыма купаламі і трыма мінарэтамі. Побач — тэстамент, спадчынны акт Шабановіча Бекіра Якаўлевіча, якім на карысць мячэці адпісваліся лугавыя ўгоддзі. Тут, у мужчынскай палове, і мемарыяльная мармуровая дошка ў гонар Эльвіры Аўгустаўны Замойскай. Яна ахвяравала на пабудову мячэці лес, адзначыўшы такім чынам заслугі мясцовых татар як выдатных гарбароў. На дошцы дзве даты: 1312 — ад нараджэння прарока Мухамеда і 1934 — ад нараджэння прарока Ісуса.

У сцяне, што падзяляе мужчынскую і жаночую паловы, зроблена шырокае акно, занавешанае зялёным шоўкам (мусліновай). У жаночай палове, у куце ля дзвярэй,— чатырох'ярусная паліца для ахвярных пачастункаў, якія прыносіліся ў дні садагі. Для гэтай жа мэты — паліца пад акном. На сценах — у рамах пад шклом тэксты сур карана, вышытыя парчовай ніццю з каляровымі абкладамі, намаляваныя на паперы атрыбуты і сцягі ісламу, дыван з выявай мячэці Каіт-Бея. Уздоўж сцен — лавы ў два рады, накрытыя зялёным сукном з вышытым залацістым надпісам: «Алах — бог усёмагутны, літасцівы,

міласэрны». У памяшканні для жанчын таксама зроблена слупавая галерэя для павялічэння змяшчальнасці.

Над усімі дзвярамі ў рамцы пад шклом надпіс: «Няма бога акрамя Алаха, прарок божы Мухамед». Мячэць упрыгожваюць кветкі ў гаршчках. Вазоны з кветкамі стаяць у міхрабе і мумібіры, на паліцы са свяшчэннымі кнігамі, на паліцах для ахвяраванняў у жаночай палове. Шмат прыгожых гірляндаў, зробленых з рознакаляровай паперы. Іўеўская мячэць шырока вядома не толькі сярод мусульман Беларусі, але і далёка за яе межамі. Яе наведвалі прадстаўнікі ісламу з Лівіі і Марока. У якасьці падарункаў яны пакінулі некалькі ваўняных дываноў з выявамі мячэцяў. Прыязджаў сюды ў 1986 годзе і муфцій мусульманскага духоўнага праяўлення еўрапейскай часткі СССР і Сібіры Талгад-Гудж-Эддзін. Ен падараваў мячэці адно з апошніх выданняў карана.

Большасць намаляваных акварэллю на паперы мухіраў выканана мясцовым майстрам Сулейманам Якаўлевічам Рафаловічам (малюнак мячэці Сулеймана, датаваны 22.01. 1979 г., і малюнкі ісламскіх сцягоў і сімволікі, намаляваныя 17.01.1982 г. і 24.10.1980 г.). Адлюстраванне на мухірах вядомых мячэцяў спрыяла знаёмству з архітэктурай Усходу, пашырала ўяўленні аб мячэцях і іх атрыбутах.

Мячэць у Навагрудку ў сваім сённяшнім выглядзе мала чым напамінае старадаўні помнік, бо перабудавана ў жылы дом. Апошні яе рамонт быў зроблены ў 1855 годзе клопатамі адстаўнога маёра Аляксандра Асановіча. Ён перабудаваў мячэць 1796 года. У матэрыялах Мінскага губернскага праўлення за 1854 год маецца «...даведка Таўрычаскага магаметанскага духоўнага праўлення ад 31 жніўня 1854 года, пры якой пераправодзіцца на... разгляд губернскага праўлення прадстаўлены хатыпам Навагрудскай саборнай мячэці Багдановічам прыгавор мясцовых прыхаджан аб хадатайніцтве пра дазвол на пабудову новай мячэці ў г. Навагрудку». З даведкі ві-

даць, што «ў выніку хадайніцтва адстаўнога маёра Асановіча аб дазволе пабудовы яго клопатамі новай драўлянай мячэці ў Навагрудку сабраны патрэбныя сродкі і дакументы, якія губернскае праўленне падавала г. генерал-губернатару 15 ліпеня бягучага года... з прылажэннем наступнага заключэння: па-першае, што, паколькі ў Навагрудку існуе адна толькі мячэць, якая па сведчанні навагрудскай гарадской паліцыі прыйшла ў канчатковую ветхасць... праўленне знайшло неабходным дазволіць пабудаваць новую мячэць на месцы існуючай, якая прыйшла ў канчатковую ветхасць, і, па-другое, каб пры ўзвядзенні мячэці не было адступлення ад устаноўленага законам парадку». У апошнім мелася на ўвазе захаванне патрабаванняў будаўнічага ўстава і карыстання так званымі «ўзорнымі» планамі і фасадамі.

На фатаграфіі пачатку XX стагоддзя бачна, што аснову мячэці складае зрубны, блізкі ў плане да квадрата аб'ём, які пераходзіць у шатровую страху з нізкім чацверыком і палогай чатырохсхільнай страхой, завершанай мінарэтам. Да асноўнага аб'ёму далучаны з боку ўвахода прытвор і два бакавыя прырубы. Сцены ашаляваны, вокны і дзверы аздоблены ліштвамі, афарбаванымі ў белы колер. Верхнія ліштвы маюць кілепадобную форму, шырока распаўсюджаную ў ісламскай архітэктуры. У традыцыях мусульманскага дойлідства выкананы і мінарэт: выцягнуты гранёны барабан, увенчаны купалам, аснова якога падкрэслена карнізам. Такія мінарэты былі характэрны для мячэцяў Малой Азіі і Ірана XVI-XVII стагоддзяў. Навагрудская мячэць з'яўляецца арыгінальным варыянтам разгледжанага тыпу: больш складанае рашэнне асноўнага аб'ёму, асобных дэталяў. Але тут адсутнічае такі важны элемент, як слупавая галерэя.

Іншы тып складаюць мячэці, у якіх асноўнае памяшканне мае не цэнтрычныя, а восевыя прапорцыі. Мячэць у Асмолаве пад Навагрудкам (1834 г., перабудавана ў 1924-1925 гг.) мае прамавугольны зруб, умацаваны

лісіцамі, які пераходзіць у чатырохсхільную страху, у цэнтры якой чатырохгранны мінарэт з шатровым завяршэннем. Да зруба далучаны прыруб-міхраба і дзве прыбудовы з аднасхільнымі стрэхамі. Формы пазбаўлены якога-небудзь класічнага аздаблення.

Апошняга нельга сказаць пра мячэць у Лоўчыцах (пабудавана прыкладна ў 1688 г.). Працяглая ў плане зрубная пабудова мае двухсхільную страху, у сярэдзіне якой мінарэт, падобны на макаўку царквы. Тут відавочны ўплыў драўляных праваслаўных і уніяцкіх цэркваў XVI-XVII стагоддзяў. І нічога недарэчнага ў гэтым няма. Наадварот, гэты працэс спрыяў узаемнаму абагачэнню і развіццю формаў.

Прыкладам мячэці, архітэктура якой увасабляе традыцыі драўлянага дойлідства уніяцкіх цэркваў, з'яўляецца мячэць у Рэйзах (1886 г., Польшча). Прамавугольны зруб мае вузкі прытвор, у якім зроблены ўваходы ў мужчынскую і жаночую часткі мячэці, раздзеленыя падоўжнай сцяной з вузкім доўгім акном, закратаваным балясінамі. У мужчынскай частцы ў супрацьлеглай ад увахода сцяне — маленькі пяцікутны прыруб міхрабы, у паменшаных формах нагадвае царкоўны алтар. У мужчынскай і жаночай частках ля сцяны прытвора — галерэя на бэльках накшталт хораў. Галоўны фасад мае два ганкі, над імі вокны з ліштвамі, карніз, шчыт з двума вокнамі. Двухсхільная страха пераходзіць у трохсхільную. У папярочнай частцы невялікая глаўка — мінарэт. Сцены мячэці аздоблены вертыкальнай шалёўкай.

Элементы архітэктуры палескай царквы яскрава бачны ў аблічы мячэці першай паловы XIX стагоддзя з вёскі Студзёнкі (Падляшша, Польшча). Блізкі да квадрата ашаляваны зруб накрыты чатырохсхільнай страхой з цыбулепадобнай макаўкай. Слупавая падсень з боку ўвахода, відаць, увасабляе нейкім чынам традыцыі будаўніцтва галерэі.

У поўнай меры гэта можна аднесці і да мячэці, якая

была ў Міры (1840 г.). Галоўны, крыху выцягнуты аб'ём нагадвае нефы адна-, двухзрубных цэркваў XVI-XVIII стагоддзяў. Трох'ярусны мінарэт зроблены накшталт званіцы, пастаўленай на галоўнай восі ўвахода.

Пэўны тып мячэцяў склаўся і пад уплывам драўляных касцёлаў. Як вядома, адной з галоўных архітэктурных асаблівасцей апошніх з'яўляліся вежы, фланкіруючыя заходні фасад. Іх вытокі — у драўляным абаронным дойлідстве, а таксама ў архітэктуры Заходняй Еўропы раманскай эпохі. У мястэчку Вінкшнуп пад Кальварыяй у Польшчы была мячэць, да асноўнага аб'ёму якой, накрытага двухсхільнай страхой, прыбудаваны мінарэт накшталт вуглавой вежы з цыбулепадобным завяршэннем. Цікава, што прыруб міхрабы далучаны да яе асноўнага аб'ёму так, як звычайна ў цэрквах і касцёлах далучаюцца алтарныя прыбудовы.

Асаблівасці архітэктуры драўлянага аднавежавага касцёла назіраліся ў мячэці ў Клецку (1881 год пабудовы). Вылучаўся двух'ярусны мінарэт з чатырохсхільнай шатровай страхой, блізкі да традыцыйнай званіцы.

Яркім прыкладам увасаблення рысаў двухвежавага касцёла з'яўляецца мячэць у Канвалішках на Беласточчыне (другая палова XVIII — першая палова XIX ст.). Прамавугольны зруб падзелены на жаночую і мужчынскую паловы, калі глядзець у напрамку падоўжнай восі. Уваход у жаночую палову зроблены з боку галоўнага фасада праз ганак, у мужчынскую — з бакавога фасада. Мужчынская частка большых памераў, мае галерэю на слупах, трохвугольны прыруб міхрабы на падоўжнай восі плана, справа — мумібір. Двухсхільная страха над мужчынскай часткай пераходзіць у трохсхільную. Галоўны фасад фланкуюць дзве квадратныя ў плане вежы з цыбулістымі завяршэннямі. Паміж імі — шчыт-франтон. Над сярэдзінай страхі — невялічкая васьмігранная глаўка з цыбулістай макаўкай. Будынак аздоблены вертыкальнай шалёўкай.

Да асобага тыпу трэба аднесці купальныя мячэці. Паводле паведамленняў С. Крычынскага, мячэць з купалам была ў Слоніме ў 1804 годзе. Ен адзначыў, што мячэць была «...з адным мінарэтам і купалам». Але шэдэўрам архітэктуры мячэцяў Беларусі, у прыватнасці купальнага тыпу, з'яўляецца мячэць XVIII ст. у вёсцы Доўбучкі Смаргонскага раёна.

# Паміж аколіц
# і крутых
# пагоркаў



Адной з найбольш буйных і старажытных татарскіх асад на Беларусі з'яўлялася Доўбуцкая. Першыя ўпамінанні аб Доўбучках сустракаюцца ў дакументах старажытных Актаў Вялікага княства Літоўскага і адносяцца да канца XVI стагоддзя. Паводле іх, гэтае паселішча ўваходзіла ў склад фальварачнага ўладання, якое ўключала і іншыя вёскі. Уяўленне пра эканамічнае і сацыяльнае становішча Доўбучак дае «Інвентар маёнтка Далбуцішак...», датаваны 1 кастрычніка 1522 года. Інвентар быў складзены з нагоды перадачы маёнтка спраўцай Мазырскага староства князем Ярашам Жыжэмскім татарыну Алікечу Бекгімовічу Уланаву. Каштоўнасць дакумента — у данесеных праз стагоддзі прозвішчах, у дакладным апісанні гаспадаркі, структуры землекарыстання. З інвентару відаць, што Далбуцішскаму маёнтку належала некалькі вёсак з сялянамі. «...Сяло Загор'е: Хведар і Павел Кожычы, валока адна, Цімафей Груневіч, валока адна, Кандрат Станіслававіч і Мікіта Латыш, валока адна, Станіслаў Ліцвін, валока адна, Мікола і Стасік Плевжычы, валока адна, Іванец Грыгор'еў з братам, валока адна, Пётр Медневіч, валока адна, Грын, валока адна, Трахім Савініч, валока адна, Янка і Андрэй Дарашковічы, валока адна, Андрэй Злоўка, цівун, валока адна, Хама і Іван Місюковічы, валока адна, Мацей і Якаў, парабкі, валока адна, Андрэй Станіслававіч і Кандрат Кузьміч, валока адна, Янка Латыш, паўвалокі, Трафім Самсонавіч і Іван Масквіцін, валока адна; на тым сяле незаселеных валок восем, да іх валока, на якой жыве Войцах Рубіцкі, другая валока, на якой гетманы і Жук жылі...»

У Мецяжах: «Якавец і Пратас Зыгмантовічы, валока адна, Андрэй з Гаўрылам Давідовічы, валока адна; у Казаковічах: Курыла Казакевіч, паўслужбы, Якаў і Хведар Міжэвічы ў Войташах, служба адна. Павіннасці тых людзей: з кожнай валокі павінны адпрацаваць па чатыры дні, а летам з валокі — па два дні на кожным тыдні, а грошай павінны даць з валокі па грашу — 24, сума агульная, коп сем, грошай 12; людзі застаўны ў сяле Межычы: Будай Лук'ян, паўслужбы, Андрэй Куплан, паўслужбы, Марцін Латыш, паўслужбы, у Каскевічах: Кузьма Станіслававіч, служба, у Далбуцішках: Сцепанец Ляўковіч, паўслужбы, Мацей Ляўковіч, паўслужбы, Алехна Пяткевіч, паўслужбы, Іван Ніба з сынам сваім Лявонам, служба адна, Сцяпан Анісавіч Саковіч, паўслужбы...»

Такім чынам, маёнтак падчас яго перадачы ад спраўцы Мазырскага староства Яраша Жыжэмскага да татарына Бекгімовіча Уланава меў вёскі: Загор'е (15,5 валок плюс 10 валок вольных), Мецяжы (2 валокі), Казаковічы (два двары, паўтары службы), Межычы (тры двары, паўслужбы), Каскевічы (адна служба), Доўбучкі (пяць двароў).

Мы наўмысна так падрабязна прыводзім гэты інвентар, бо з яго відавочна, што падчас перадачы насельніцтва паселішча, у тым ліку і саміх Доўбучак, складалі сяляне-беларусы, аб чым сведчаць прозвішчы. У этнаграфічным плане вылучаюцца імёны Мікіты Латыша і Янкі Латыша, Станіслава Ліцвіна і Івана Масквіціна.

«Пералік дакументаў на маёнтак Далбуцішкі, выдадзены князем Жыжэмскім князю Алікечу Бекгімовічу», датуемы I кастрычніка 1592 года, называе шэсць уладальнікаў надзелаў, якія належаць уласна Двару (маёнтку): «Абдула Юсуповіч і Толек Муртозіч, Інбулат Ясюкевіч і Асан Муртозіч, Касім Харошчыч, Ахмет і Шазаўлет Пятровічы, Ходзіч Яхі, Мікбулат Яскевіч, Якуб Сулімановіч, Фаціма Магаметаўна Кадышкевіч і ліст духоў-

ніка татарскага Далбуцішскага Дзервіш Чэлебкаха-Дзімурзіевіч і яго жонкі». Відавочна, што насельніцтва двароў маёнтка складаюць татары.

Наступны дакумент складзены праз два дні і мае дату 3 кастрычніка 1592 года. Гэта «Запіс князя Жыжэмскага князю Алікечу Бекгімовічу аб уплаце 234 бочак солі». З дакумента відаць, што князь Жыжэмскі прамяняў Доўбуцкі маёнтак на маёнтак Бекгімовіча Засулле ў Мінскім павеце, а розніцу ў кошце кампенсаваў 234 бочкамі солі.

Пра гаспадарку татарскага фальварка і воінскія павіннасці татар даюць уяўленне «тры копіі спраў, якія адносяцца да маёнтка Засулле... 1592 года кастрычніка 3 дня».

Першая справа прысвечана зацвярджэнню каралём падзелу спадчыннага ўладання засульскага маёнтка паміж братамі («...князі уланы Нуруш і Адко а Бейкгім Майткевіч...») і продажу ўладання іх брата-нябожчыка, Магамета Майткевіча, Алікечу Бекгімовічу. У купчым лісце гаворыцца: «...частку сваю ў Засуллі, якую частку мелі ясьма сподкам па дзятку нашым Магамецю... тую частку сваю з усімі землямі і з зямлёю дворнаю, і з збожжам засеяным, і з навозы, з палеткамі і землямі, і сенажацямі, і з людзьмі беглымі, і з землямі пустоўскімі, і з ловамі звярынымі, і з тоны бабровымі, і з дрэвам бортным і яго пчоламі, і з выганам, і з выпусты, і рэкі, і з рачнымі берагамі, і з усім на ўсім — прадалі есьма брату нашаму Алікечу Бекгімовічу...» Перад намі тыповая фальварачная гаспадарка, якая акрамя хлебных палеткаў і жывёлагадоўлі мела лясныя і бортныя промыслы.

Трэці дакумент — рэестр вайсковы, дзе апісваецца «харугства татарскае» павятовай земскай службы Ахмета Улана. Паводле дакумента, у выпадку неабходнасці апошні быў абавязаны выставіць «пяць коней збройне, князь Адко маршалак татарскі тры коні збройне, Магамет улан з братам Фуру сем коней збройне... Алі-

кеч Бекгім Улановіч тры кані збройне...» Такім чынам, татары-зямяне абкладваліся канкрэтнай вайсковай павіннасцю і ўяўлялі сабой ваенізаваную сацыяльную праслойку, гэтак жа як і шляхта.

Гаспадарка Доўбуцкага фальварка характарызуецца таксама ў названым вышэй дакуменце на абмен маёнткаў паміж князямі Ярашам Жыжэмскім і Алікечам Бекгімовічам: «...каторы маёнтак наш ляжачы ў павеце Ашмянскім, празываемы Далбуцішкі, Ахмета Пятровіча, харужага татарскага, які мы заставою ад татарына... з павета Ашмянскага князя Касыма Харожыча і двух сот коп грошай літоўскіх трымалі, а таксама ж мы той маёнтак двор свой Далбуцішскі, з палацам, гумном, з раллёю дваровою, з агародамі гароднінnымі, з сады, з навозы, з палямі простымі, з сенажаці, з лясы, з гаі, зараснікамі, з рэчкамі, з людзьмі таго двара Доўбуцкага і сяло, празываемое Загор'е, на вечнасць купленае...» Такім чынам, Доўбуцкі двор меў сядзібны дом (палац), комплекс гаспадарчых пабудоў (гумно) і шматлікія ўгоддзі.

Наступны па датыроўцы дакумент «Упісанне тэстаменту татаркі Абрагімоўі», датаваны 6 жніўня 1598 года. У ім называецца новы духоўнік мячэці Доўбуцкай — Ахмет Халецкі. З рашэння па справе аб грабяжы і пагрозах смерці, учыненых татарынам Ахметам Асановічам (датавана 4 жніўня 1616 года), бачна, што вышэйназваны з'яўляецца новым уладальнікам пасля Бекгімовіча «...маёнтак таго Ахмета і малжонкі яго, празваным Далбуцішках, у павеце Ашмянскім ляжачым...»

Узаемаадносіны паміж татарскімі асадамі і фальваркамі складваліся ў грамадска-сацыяльных умовах феадальнай Рэчы Паспалітай. А ёй у гэты час былі характэрны пастаянныя міжусобіцы паміж магнатамі, якія ўцягвалі ў свае справы і дробных васалаў, сваркі, ахвярамі якіх рабіўся просты народ. Датаваная 8 кастрычніка 1616 года скарга князя Яна Абрагімовіча на татар князёў Асановічаў Муртозічаў за грабеж падданых сяла

Прусавіцкага паведамляе, што рабаўніцтвам займаліся ўладальнікі Доўбучак Ахмет Асановіч і яго браты.

У Актах пра літоўскіх татар паведамляецца, што ў 1588 годзе ў Доўбучках быў мула па прозвішчы Мурзіевіч. У «Пераліку дакументаў на маёнтак Даўбуцішкі...» запісана, што сярод іншых ёсць «ліст Дзервішчэлебкахадзі Мурзіевіча, духоўніка татарскага Далбуцішскага і жонкі яго...» С. Крычынскі заўважыў у напісанні імя і духоўнага сану перанос складоў, што было ўласціва старажытнаму правапісу дакументаў татар. На самай жа справе тытул і імя трэба чытаць наступным чынам: «...дзервіш чэлеб, кахадзі Мурзіевіча». Пасля расшыфроўкі становіцца зразумелым, што першыя тры словы — гэта духоўны тытул. Дзервіш з персідскага — жабрак, гэта значыць мусульманскі манах. Дзервішы мелі свае арганізацыі, брацтвы і кляштары. *Чэлеб, шэлебі* паходзіць ад старажытнаасманскага *шалаб* — бог. У турэцкай мове гэты тытул вядомы з XIV-XV стагоддзяў. Ён прысвойваўся, людзям вялікіх ведаў і вучонасці, паэтам, пісьменнікам, публіцыстам, урачам, гісторыкам, юрыстам. Але з XIV стагоддзя тытул пачынае знікаць і ў XVII-XVIII стагоддзях замяняецца грэкамоўным — эфендзі. Тытул прысвойваўся таксама кіраўнікам ісламскіх кляштараў у Малой Азіі. Тытул кадзі (суддзя) сведчыць, што Мурзіевіч быў у татар Вялікага княства Літоўскага галоўным тэолагам мусульманскім — «Кадзі ўсіх татар літоўскіх». Адзначым, што ні да, ні пасля Мурзіевіча духоўных асоб з тытулам кадзі гістарычныя дакументы Вялікага княства не называюць.

Акрамя пералічаных Мурзіевіч меў таксама тытул хаджы, які сведчыць аб пілігрымстве ў Мекку. Гэта дало падставу С. Крычынскаму выказаць гіпотэзу аб тым, што Мурзіевіч быў у ліку трох паломнікаў, адзін з якіх напісаў трактат пра татар Беларусі і Літвы ў 1558 годзе, і, магчыма, Мурзіевіч і з'яўляецца аўтарам гэтага трактата. У 1592 годзе муле Доўбуцкай мячэці Мурзіевічу было

66 гадоў, значыць, у 1558 яму было ўсяго 34 гады. Гэта быў малады, поўны сіл чалавек, здольны ажыццявіць далёкае падарожжа. У Стамбуле Мурзіевіч мог атрымаць шырокую ісламскую адукацыю, пазнаёміцца з вядомымі мусульманскімі тэолагамі. Вяртаючыся з Аравіі, ён мог пайсці, ў які-небудзь мусульманскі кляштар у Малой Азіі, а з часам і ўзначаліць яго. Там Мурзіевіч мог мець час, каб напісаць вядомы трактат. Пасля вяртання на радзіму Мурзіевіч мог быць лёгка прызнаны кадзі ўсіх татар за эрудыцыю і адукаванасць. Згодна з мусульманскім правам, кадзі — асоба, здольная вырашаць розныя грамадзянскія і духоўныя справы.

Новыя сведчанні аб Доўбучках і наваколлі знаходзім праз два з паловай стагоддзі ў краязнаўчай манаграфіі Чэслава Янкоўскага, прысвечанай Ашмянскаму павету і выдадзенай у Санкт-Пецярбурзе ў 1896 годзе. «...Паміж Мысай і Беніцай, пасярод ваколіц і крутых пагоркаў, дарог крывых і камяністых, густых лясоў, сярод мора дробных фальваркаў, ваколіц, сядзіб і засценкаў, у катлавіне, абкружанай з усіх бакоў маляўнічымі схіламі высокіх пагоркаў, ляжаць... паміж зеляніны дрэў хаты і хаткі адной з найстарэйшых асад татарскіх. Гэта Даўбуцішкі (ці, як кажуць тут людзі, Доўбучкі). Мясцовасць аддалена ад вялікіх дарог і гасцінцаў, заселена са старажытнасці... шляхтай, захавала па сённяшні дзень першапачатковы свой характар і выгляд; у аблічча крыху дзікай маляўнічасці з'яўляецца адзін з цікавейшых куткоў Ашмянскага павета. Каля дарогі — што ідзе па даліне, сярод кангламерату курганоў, падобных на шведскія, пасярод старых, пакрытых замшэлымі камянямі магіл, у цяні бяроз — стаіць мячэць з купалам чырвоным, абкружаная крытай галерэяй, якая абапіраецца на белыя калоначкі, зробленыя ў візантыйскім характэрным стылі... дзівосна вылучаецца ў тым цэлым вясковым акружэнні. Справа чыста вясковая сядзіба мулы. Каля дваццаці гадоў назад пажар знішчыў архіў мячэці, які захоўваўся

ў хатцы мулы, таму цяжка высветліць, у якім менавіта годзе на месцы, дзе даўным-даўно стаяла ў Доўбучках мячэць, з’явілася мячэць драўляная, тая, што стаіць да сённяшняга дня.

Па захаванай даце (R 1757) на надмагільным камені, што ляжыць на ўскрайку старых могілак, можна меркаваць, што менавіта ў гэтым годзе, калі не раней, тыя могілкі ў Даўбуцішках закладзены. Надпісы на плітах магільных, на ўсход звернутых, напалову на польскай і рускай мовах: пасля распараджэння Сената надпісы польскія на грабавішчах татарскіх з’яўляцца перасталі; засталіся толькі арабскія надпісы, высечаныя радкі карана... пад кожнай эпітафіяй. Ляжаць там на Даўбуцішскіх могілках Крычынскія і Тальковічы, Забалоцкія і Лебедзевы, Уланавы і Бараноўскія. Са старых... урослых у зямлю, імхом парослых камянёў магільных назавём толькі некалькі напісаных па-польску надпісаў: Стэфан Давід сын Тальковічаў, 1857 (дата смерці.— *А. Л.*); Давід Білата сын Тальковічаў, маёр кавалерыі войск расійскіх, 1848; Алёна з Крычынскіх Базарэўская, 1848; Талькоўскі," 1846; Феліцыяна Уланаў Крычынская, 1851; Асман Крычынскі, падпалкоўнік войск расійскіх, 1854; Сулейман Крычынскі, 1859; Тамерлан Крычынскі, 1860.

Навокал мячэці і шырока па ваколіцы — векавыя аседласці татарскія...» Далей прыводзіцца агляд шматлікіх татарскіх фальваркаў.

Апісанні Чэслава Янкоўскага цікавыя геаграфічнай характарыстыкай мясцовасці. Аўтар стварыў маляўнічы вобраз ваколіц, дзе прытуліліся Доўбучкі, адна з «...найстаражытных асад татарскіх...» Прыведзеныя прозвішчы татар сведчаць, што больш чым за два з паловай стагоддзі, што прайшлі з часоў Бекгімовічаў і Асанавічаў, адбіўся ўплыў натуральнага працэсу этнічных кантактаў з карэнным насельніцтвам, шлюбных сувязей з яго прадстаўнікамі. І калі імёны ў большасці засталіся татарскімі, то прозвішчы паходзяць ад мясцовай шляхты.

Бачна таксама, што знайшлі працяг і векавыя вайсковыя традыцыі ва ўмовах Расійскай імперыі. Асобныя даўбучкоўцы выслужылі высокія кавалерыйскіяя чыны.

У гістарычных дакументах адзначаны розныя варыянты назвы вёскі: Далбуцішкі, Далбуцінскае, Далбуцкага (Акты Віленскай археаграфічнай камісіі. Вільня, 1906. Т. 31), Дабуцішкі, Даўбучкі (Чэслаў Янкоўскі, Станіслаў Крычынскі, Ян Быстронь), Даўбучышкі (Wilno i ziemia Wileńska. Wilno, 1930. T. 2). Альманах валасцей і важнейшых паселішчаў Еўрапейскай Расіі (СПб., 1886) фіксуе ў Беніцкай валасці Ашмянскага павета «ваколіцу» Даўбуцішкі і ў ёй мячэць. Поўны спіс населеных пунктаў са статыстычнымі дадзенымі па Віленскай губерні за 1905 год паведамляе: «Ашмянскі павет, Беніцкая валасць, Даўбуцішкі, ваколіца, жыхароў 31 (16 мужчын, 15 жанчын), дзесяцін 251, павятовы горад у 39 вярстах, валасная ўправа за 8 вёрст, станцыя чыгункі Залессе 10 вёрст; Даўбуцішкі, млын Талькоўскага, жыхароў 10 (4 мужчыны, 6 жанчын), дзесяцін 5...; Даўбуцішкі, вёска, жыхароў 31 (16 мужчын, 15 жанчын), дзесяцін 18...» Такім чынам, у 1905 годзе тут існавала ваколіца, двор млынавы і вёска. Ваколіца, відаць, уяўляла сабой невялікі фальварак. Зыходзячы з колькасці жыхароў, вёска налічвала не больш як 6-8 двароў.

Сёння не так лёгка знайсці гэты запаветны куток, дзе некалькі стагоддзяў назад аселі пестуны вольных стэпаў і буйных вятроў. Па дарозе, што ідзе з Маладзечна на вёску Сялец, за гасцінцам з Беніцы на Баруны неўзабаве трапляеш у лагчыну, што ўтульна ляжыць паміж пагоркаў. Тут размешчаны старыя могілкі пад шатамі векавых дрэў. Пад прахалоднай сенню — помнікі-камяні з зоркай і паўмесяцам, на іх імёны Крычынскіх, Талькоўскіх, Асановічаў. Можна трапіць сюды, калі збочыць з Віленскай аўтастрады, павярнуць на Крэва і далей на Смаргонь, можна — і ад чыгуначнай станцыі Залессе, праз вёску Рымцелі. Вось толькі мячэці на могілках зараз

няма. Яшчэ нядаўна стаяла яна, разбураная, з упаўшым мінарэтам, прыціснутая да зямлі магутнымі хваінамі, паваленымі ў час навальніцы. Мячэць перавезлі ў Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту, што непадалёку ад Мінска, на берагах Пцічы і Менкі. І дзякуючы гэтаму адна з найстаражытнейшых татарскіх асад Беларусі стала яшчэ больш вядомай усяму свету, якому яна дала адзін з унікальнейшых помнікаў дойлідства.

Гісторыя Доўбуцкай мячэці XVI-XVIII стагоддзяў у дакументах не адлюстравана. Прычынай гэтага сярод іншых з’яўляецца пажар у доме мулы, у час якога згарэў архіў, пра што ўжо гаварылася. Каштоўнай крыніцай з’яўляюцца некаторыя рукапісныя матэрыялы Алі Варановіча, якія захоўваліся ў бібліятэцы віленскага муфціята. У прыватнасці, цікавасць уяўляюць апісаныя там гісторыі мячэцяў у Лоўчыцах, Ляхавічах і Доўбучках. У XVIII — пачатку XIX стагоддзя ў Доўбучках прыход быў адным з буйнейшых на Беларусі. Татары Доўбуцкага прыхода — уладальнікі маёнткаў абавязаны былі, як калятары, выплочваць мячэці спецыяльны падатак, устаноўлены ў 1802 годзе мулой Якубам Лебедзевым. Акрамя таго, на карысць мячэці браліся «пасошныя»: па два злотых ад кожнай рабочай сахі. Доўбуцкай мячэці плацілі пасошныя 176 татарскіх сох. Даходы мячэці папаўняліся і за кошт спадчынных ахвяраванняў. Так, у 1805 годзе нейкі Ян Крычынскі даў муэдзіну Доўбуцкай мячэці Якубу Радкевічу ліст, якім адпісваў у вечнае карыстанне пабудовы, палі і агароды. У 1819 годзе аналагічны ліст на палову дзесяціны зямлі выдаў мячэці ад сябе і ад свайго брата Эліяз Юшынскі. Маёнткі, што адносіліся да прыхода, належалі шляхетным татарам. Бо калі ў 1831 годзе ўспыхнула паўстанне пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі, то мула Доўбуцкай мячэці Давід Александровіч зачытваў з мумібіра праклямацыі графа Карла Пшэздзецкага.

Вядомая зараз Доўбуцкая мячэць напачатку да Доўбучак ніякіх адносін не мела. Яна была пабудавана дзесьці ў 1735 годзе непадалёку ад Доўбучак, у вёсцы Сялец. У XIX стагоддзі, відаць, лёс склаўся такім чынам, што мячэць у Доўбучках прыйшла ў заняпад, але заставаўся

аўтарытэт старадаўняга прыхода. І таму, мабыць, вырашылі перавезці сюды мячэць з вёскі Сялец, таму што будаваць яшчэ адну, новую, ужо не было сродкаў і сіл. У манаграфіі Чэслава Янкоўскага ёсць цікавы малюнак. На ім мячэць у Доўбучках паказана ў выглядзе зрубнай пабудовы з шатровай страхой, якая пераходзіць у гранёны купал. Насупраць дзвярэй — ганкі з двухсхільнымі стрэхамі на разьбяных слупах. Першую фатаграфію мячэці зрабіў вядомы віленскі фатограф Ян Булгак на пачатку нашага стагоддзя. На фота тое ж збудаванне, што і на малюнку, але ёсць адно важнае адрозненне: ганкі са слупавымі навесамі злучаны скразной галерэяй. На малюнку галерэя адсутнічала. Магчымы два тлумачэнні такой неадпаведнасці: альбо мастак рабіў малюнак па памяці і галерэя выпала з поля зроку, альбо мячэць увогуле не мела галерэі. Праўда, Чэслаў Янкоўскі мячэць бачыў ужо з галерэяй, пра што і піша: «... абкружана крытай галерэяй». І змешчаны ім малюнак зроблены, відаць, раней. Пра гэта можна меркаваць і зыходзячы з даты выдання манаграфіі — 1896 год.

Характарызуючы знешні выгляд помніка, Янкоўскі адзначае, што галерэя была «на белых калоначках, зробленых у візантыйскім характэрным стылі...», а таксама паведамляе аб «... купале чырваньявым». Значыць, драўлянае пакрыццё купала (дранка, гонта) было афарбавана ў чырвоны колер. Пра афарбоўку драўляных стрэх у культавых збудаваннях Беларусі паведамляюць шматлікія дакументы. Афарбоўка драўляных стрэх зафіксавана на шматлікіх малюнках мастакоў XIX стагоддзя Д. Струкава і І. Трутнева. Акрамя традыцыйных крыніц распаўсюджання афарбоўкі: іканаграфія, афарбоўка ашаляваных сцен, ліштваў і карнізаў для захавання іх ад гніення, адбіўся ўплыў і. паліхромнай пластыкі. На фатаграфіі Яна Булгака добра відаць, што ліштвы вокнаў, дзвярэй, слупы галерэі маюць светлы колер. У светлае афарбаваны і вертыкальныя дошкі зашыўкі вуглоў. На адных

фатаграфіях відаць, што вокны мелі ў створцы чатыры шыбкі, на другіх — пяць. За час паміж здымкамі, магчыма, рабіўся рамонт сталяркі.

Пра планіроўку і ўнутранае аздабленне мячэці на пачатку нашага стагоддзя можна меркаваць на падставе апублікаваных С. Крычынскім апісанняў Алі Варановіча з яго рукапісу «Даўбуцішкі». Мячэць была падзелена на дзве паловы: мужчынская злева і жаночая справа. У мужчынскай палове, у сценцы, звернутай на поўдзень (да Меккі), знаходзілася зрубная ніша-міхраба. Побач — мумібір з дзевяццю прыступкамі і навесам-балдахінам. Мумібір з такой колькасцю прыступак быў надзвычай рэдкай з'явай нават для буйных мячэцяў, што сведчыць пра значнасць і аўтарытэт помніка. У сцяне, падзяляючай мужчынскую і жаночую паловы, на вышыні каля метра, мелася вузкае акно, закратаванае точанымі балясінамі. Акно занавешвалася тонкай белай вуаллю (мусліновай). На падлозе ў мужчынскай палове ляжалі зялёныя суконныя дарожкі. Паміж імі — невялічкія круглыя чалуны. На сценах віселі мухіры — змешчаныя ў рамах тэксты карана, імёны пракаў, віды мячэцяў Меккі, Каабы, Медзіны. Акрамя таго, віселі у рамах літаграфічныя выявы ісламскіх святынь, прывезеныя татарамі з Паволжа, так званыя «друкаваныя Казанскія абразы» 1899, 1909 і 1912 гадоў. Каля сцен стаялі лавы і табурэты. Над сцяной, што падзяляла мячэць, меўся балкон на слупах. Яго сярэдняя частка, месца для муэдзіна, выступала наперад.

У жаночай палове абсталяванне было больш сціплым. Алі Варановіч паведамляў, што падлога тут была заслана тканымі матамі. У кутках стаялі драўляныя ліхтары. Пра афарбоўку сцен, падлогі, столі ці іншыя асаблівасці ўнутранага аздаблення мячэці не паведамляецца.

Алі Варановіч спрабаваў вызначыць стылёвыя вытокі і генезіс формаў мячэці. Падкрэсліўшы ў аб'ёмным рашэнні спалучэнне квадратнай у плане часткі зруба з купалам,

наяўнасць галерэі і праёмаў з элементамі арак, вуглавое размяшчэнне мінарэта, ён робіць вывад аб прысутнасці ў помніку традыцый будаўніцтва мячэцяў пад уплывам візантыйскага дойлідства.

Як помнік архітэктуры Доўбуцкая мячэць прыцягвала да сябе ўвагу спецыялістаў у 20-я гады. Былі выкананы яе абмеры, і ў 1928 годзе яна была афіцыйна ўзята пад дзяржаўную ахову. Меркавалася правесці і пэўныя кансервацыйныя работы.

Далейшую гісторыю помніка раскрывае шэраг фотаздымкаў, выкананых у канцы 40-50-х гадоў. Захаваліся фотаздымкі мумібіра, мэблі (прысценных лаў), галерэі. Найбольш цікавы аматарскі здымак, зроблены на пачатку 70-х гадоў. Гэта апошняя фатаграфія, дзе мячэць зафіксавана з цэлым купалам. Адно з апошніх архітэктурных даследаванняў было выканана ў 1973 годзе С. Сергачовым. Ён зрабіў неабходныя абмеры і на падставе іх выканаў падоўжны канструкцыйны разрэз збудавання і канструкцыйную схему купала. На ёй відаць, што асновай з'яўляўся вертыкальны слуп, замацаваны ў бэлечнай сістэме, да якога сыходзяцца, нібы ўтвараючы піраміду, кроквы, якія ўнізе абапіраюцца на абвязку з бярвенняў — шматкутнік з колькасцю бакоў, роўнай колькасці граняў купала. Кроквенныя пары, размешчаныя ў плоскасцях падоўжнай і папярочнай восей, маюць зацяжкі. Утвараючыя грані купала рэбры складаюцца з асобных замацаваных драўлянымі нагелямі сегментаў і абапіраюцца на кроквы. Канструкцыя нагадвае дугу лука, сцягнутую цецівой. Прасторавую жорсткасць ім надаюць латы і гонтавае пакрыццё. З разрэзу відаць, што канструкцыя схілаў страхі звязана з каркасам купала.

У аб'ёмна-прасторавай арганізацыі формаў мячэці відавочна супярэчнасць: галоўны архітэктурны акцэнт — купал і разам з тым у інтэр'еры плоская столь. Хоць купал ствараў магчымасць раскрыць прастору, даць верхняе святло, стварыць адчуванне велічнасці і глыбіні. Наўрад

ці можна растлумачыць гэта тым, што адкрыты купал было складана будаваць. Беларускім цеслярам былі вядомы складанейшыя канструкцыйныя рашэнні, у тым ліку і купалаў, пра што сведчаць помнікі не толькі драўлянай архітэктуры, але і мураванай. У апошняй, дарэчы, купалы часта маюць драўляную канструкцыю. Хутчэй за ўсё тут справа ў традыцыі. Успомнім, што мячэць Амара ў Іерусаліме першапачаткова мела плоскае перакрыцце, якое было заменена купалам толькі ў X стагоддзі. Многія ранні ісламскія мячэці таксама мелі плоскія столі і, мабыць, таму, што крыніцай уяўленняў аб прасторы мусульманскага храма доўгі час служыла сціплая мекканская Кааба. Для прававерага мусульманіна знешняе афармленне рытуалаў не мела асаблівага значэння, сутнасць заключалася ў асабістай самааддачы, адданасці Алаху. Нездарма, пераўтвараючы цэрквы ў мячэці, арабы не надта клапаціліся аб карэннай пераробцы інтэр’ера. Дастаткова было чужыя фрэскі і роспісы завесіць дыванамі. У хрысціян прастора ў богаслужэнні мела асобае рытуальнае значэнне. Як і ў антычных народаў, храм успрымаўся як жытло бога ці божай існіны, а купал атаясамліваўся з прастораю неба. Патокі святла, што струменіліся праз яго, неслі божы дух, адганялі нячыстую сілу, са святлом заглядвала ў храм вока божае. Купалы трывала ўвайшлі ў хрысціянскую архітэктуру пасля канструкцыйных выпрабаванняў яшчэ ў рымскім дойлідстве. З купаламі былі звязаны ўспаміны аб першых хрысціянскіх алтарах у паўсферах падземных катакомбаў.

Успрыняўшы візантыйскую архітэктуру, іслам захоўваў у ёй свой змест. І хоць у архітэктуры мячэцяў купальныя сістэмы атрымалі ў далейшым небывалае развіццё, ва ўмовах аддаленых правінцый мусульманскага свету, якімі з’яўляліся і татарскія асады ў Беларусі, дастаткова было прадстаўнічасць мячэцяў выразіць сродкамі формаў, адлюстроўваючы такім чынам сувязь з архітэктурнымі

ўзорамі ісламскіх святыняў, увасобленых на змешчаных у інтэр’еры мухірах.

Звяртае на сябе ўвагу тое, што лінія перасячэння паўсферы купала са схілам страхі мае складаныя ломаныя абрысы. З канструкцыйнага разрэзу відаць, што абрыс асновы купала, пачынаючы ад яго асновы на ўзроўні бэлек, уяўляе не паўакружнасць, а выцягнуты авал. У мусульманскім дойлідстве, як ужо адзначалася, візантыйская паўцыркульная арка была трансфармавана ў падковападобную. Гэта дасягалася шляхам таго, што аснова яе змяшчалася на 2/9 уніз ад дыяметра. Абрысы купала Доўбуцкай мячэці маюць выгляд падкаваподобнай крывой. Тая яго частка, якая ўзвышаецца над схіламі страхі, бліжэй да паўсферычнай формы, ніжняя схавана ў паддахавай прасторы. Такім чынам, у абліччы купала зафіксавана яшчэ адна важная рыса мусульманскай архітэктуры.

У чэрвені 1989 года помнік быў абследаваны спецыялістамі-рэстаўратарамі. Да гэтага часу мячэць мела значныя разбурэнні: абрушыліся перакрыцці, купал і галерэя, у аварыйным стане знаходзіўся мінарэт. Абследаванне паказала, што сцены мячэці зроблены з брусоў. Акрамя вонкавай шалёўкі мелася таксама ўнутраная, з вагонкі. Пад ёй знойдзены рэшткі шпалераў, сляды пабелкі. Унутранае аздабленне сцен неаднаразова мянялася. Захавалася міхраба з пафарбаванымі ў белы колер ліштвамі, на якіх надпісы па-арабску: няма бога акрамя Алаха, прарок божы Мухамед. Мумібір не захаваўся. Выяўлена некалькі дэталяў ад яго.

Захавалася сцяна, падзяляючая мужчынскую і жаночую паловы, праём у ёй загатаваны балясінамі, маючымі розныя профілі такарнай апрацоўкі: яны замяняліся ў ходзе рамонтных работ. Выяўлены рэшткі нясучага вертыкальнага слупа купальнай канструкцыі, кроквяў, сегментаў, бэлечнай сістэмы, слупы галерэй. Захаваліся рэшткі аконных пераплётаў і дзвярных палотнаў. На ка-

пітэлях калон, вушаках дзвярэй в***і***даць сляды карычнева-вохраваў афарбоўкі. Мячэць мела падшыўную столь, падлогу з дошак на лагах.

Пасля рэстаўрацыі ў Беларускім дзяржаўным музеі народнай архітэктуры і побыту мячэць стане асяродкам культурнага жыцця згуртавання татар Беларусі.

Татары прынеслі з сабой сістэму светапогляду ісламу з захаваннем некаторых рода-племянных асаблівасцей вераванняў сваіх продкаў. У новых умовах, у адрыве ад мусульманскага Усходу, развіццё культурных традыцый ішло ва ўзаемадзеянні з вераваннямі карэннага насельніцтва, а адсутнасць мусульманскіх школ і вучоных-улемаў спрыяла адраджэнню шаманістычных вераванняў.

Беларускія татары пранеслі праз стагоддзі пачуццё і ўсведамленне сваёй супольнасці і сёння захоўваюць звычаі і нормы традыцыйнага грамадскага ўкладу. Адчуванне нацыянальнай згуртаванасці падтрымліваецца перадачай з пакалення ў пакаленне паданняў пра паходжанне, пра фарміраванне аседласці, культуры і традыцый. І сёння жыве гістарычны, складзены ў традыцыі джэміяту звычай калектыўнага вырашэння агульных спраў (на сходах у мячэцях, сходках пад час святаў). Жыве і старадаўні звычай міласэрнасці (садагі).

Для вырашэння пытанняў нацыянальнага і культурнага адраджэння створана грамадская асацыяцыя татар Беларусі. У 1989 годзе пад эгідай Беларускага фонду культуры створаны Мінскае і Гродзенскае абласныя татарскія грамадска-культурныя аб’яднанні «Аль-Кітаб» (свяшчэнная кніга). Створаны камісіі па гісторыі, культуры; рабоце з моладдзю, пытаннях рэлігіі, міласэрнасці, развіцця сувязей з суайчыннікамі ў іншых рэгіёнах і за мяжой.

У татар Беларусі гістарычна складваюцца прынцыпы дэмакратычнай арганізацыі і духоўнай іерархіі. Джэміят, які ў краінах Усходу прадугледжваў патранаж буйнога духоўнага ці свецкага іерарха, тут атрымаў своеасаблівую форму абшчыннай дэмакратыі, Лідэры духавенства,

імамы, мулы, муэдзіны, выбіраліся прыхаджанамі з ліку тых асоб, якія не толькі валодалі асновамі ісламу, але і карысталіся павагай і аўтарытэтам грамадскасці. Мула прыхода, па сутнасці, станавіўся і главою ўсіх свецкіх спраў, ён надзяляўся правамі адпаведнай прадстаўнічасці. Адсутнасць разгалінаванай іерархіі духавенства рабіла сан мулы надзвычай аўтарытэтным. Абшчына з'яўлялася і крыніцай фінансавання мячэці і яе духавенства (мулаў, муэдзінаў). Як і царква ці касцёл, мячэць мела сетку сваіх уладанняў (вакуфаў), мела фінансуючых яе ўладальнікаў і асоб (калятараў). Дадатковымі крыніцамі фінансавання з'яўляліся ахвяраванні і спадчынныя акты (тэстаменты).

Татары Беларусі на працягу сваёй гісторыі імкнуліся выйсці з цэнтралізаванай залежнасці ад крымскіх муфціяў, турэцкіх духоўных судоў альбо Таўрычаскага духоўнага праўлення. Грунтуючыся на традыцыях агола, яны выпрацавалі свае, аўтакефальныя формы культавага кіраўніцтва, у аснове якіх былі ўсё тыя ж прынцыпы грамадскага дэмакратызму.

Калі ў архітэктурна-канструкцыйных адносінах мячэці Беларусі глыбока ўспрынялі традыцыі драўлянага дойлідства жылых, грамадскіх і культавых пабудоў карэннага насельніцтва, то ў планіроўцы і аздабленні інтэр'ера атрымалі ўвасабленне нацыянальныя традыцыі жытла (падзел на мужчынскую і жаночую паловы) і каноны ісламу (усталяванне міхрабы і мумібіра, зялёныя суконныя кілімы на падлозе, выявы вядомых мячэцяў, сімвалаў ісламу, тэкстаў з карана на сценах). Ва ўнутраным аздабленні мячэцяў адлюстраваліся шырокія міжнацыянальныя сувязі: атрыбуты з рэгіёнаў Паволжа, дываны з Лівіі і Марока і г. д.

Дываны і мухіры з выявамі мусульманскіх святыняў спрыялі таму, што нават у аддаленай ад ісламскага Усходу Беларусі татары мелі ўяўленне аб важнейшых архітэктурных рысах мячэці. Спрыяла гэтаму і палом-

ніцтва ў Мекку і Медзіну. У архітэктуры мячэцяў Беларусі прысутнічаюць характэрныя для гэтага тыпу збудавання элементы: галерэі, мінарэты, купалы. Вядома, што першапачатковa беларускія мячэці будаваліся без мінарэтаў.

Будаўніцтва татарскіх мячэцяў на Беларусі спрыяла развіццю і ўзбагачэнню яе драўлянага дойлідства. Так, далейшае развіццё атрымалі чатырохсхільныя і шатровыя дахі, новую інтэрпрэтацыю атрымалі традыцыйныя галерэі-падсені. Далейшым развіццём драўляных вежавых збудаванняў сталі мінарэты. Пры гэтым зыходныя прапорцыі і формы званіц цэркваў і касцёлаў, якія служылі пэўнымі прататыпамі, набылі дадатковы дынамізм, узнёсласць. Спрыяла архітэктура мячэцяў і ўдасканаленню драўляных купальных сістэм.

Найбольш глыбока і паслядоўна архітэктурна-стылістычныя рысы мячэцяў Беларусі ўвасоблены ў мячэці з Доўбучак. Галоўная з іх — купал на блізкім да квадрата зрубе, абрыс асновы купала нагадвае падковападобную мусульманскую арку. Трэба таксама адзначыць зробленую ва ўсходнім гусце разьбяную апрацоўку калон, ужыванне арачных раскосаў у дзвярных праёмах, асіметрычнае размяшчэнне мінарэта. Усё гэта ставіць помнік у рад шэдэўраў драўлянай архітэктуры не толькі Беларусі, але і Еўропы, робіць яго цудам творчай думкі і майстэрства народных дойлідаў.

1. Акты о литовских татарах // Акты Виленской археографической комиссии. Вильно, 1865-1915. Т. 31.
2. Султанов Н. Памятники зодчества средних веков магометанского Востока. СПб., 1908.
3. Пугаченкова Г. Шедевры Средней Азии. Ташкент, 1986.
4. Джованни дель Плано-Карпини. История Монголов. Вильгельм де Рубрук. Путешествие в Восточные страны. СПб., 1911.
5. Рашид-эд-Дин. Сборник летописей. М.; Л., 1960.
6. Козин С. А. Сокровенное сказание: Монгольская хроника 1240 г. М., 1941.
7. Татаро-монголы в Азии и Европе. М., 1977.
8. Мухлинский А. Исследование о происхождении и состоянии литовских татар. СПб., 1857.
9. Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 г. Мн., 1989.
10. Шпилевский П. М. Путешествие по Полесью и белорусскому краю. СПб., 1853.
11. Киркор А. Этнографический взгляд на Виленскую губернию // Этнографический сборник. СПб., 1858. Вып. 3.
12. Грыцкевіч А. П. З гісторыі паселішчаў татар у Беларусі // Весці АН Беларусі. Сер. грамад, навук. 1981. № 6.
13. Скарына і яго час. Мн., 1988.
14. Этнаграфія Беларусі: Энцыклапедыя. Мн., 1989.
15. Borawski P. Tatarzy w dawniej Rzeczypospolitej. Warszawa, 1986.
16. Talko-Hryncewicz J. Muslimowie czyli tak zwani Tatarzy Litewscy. Kraków, 1924.
17. Tatarzy w Polsce. Wilno, 1936.
18. Kryczyński St. Tatarzy Litewscy. Warszawa, 1938.
19. Kryczyński M. L. Historia meczetów w Lowczycach i Nowogrodku // Życie Tatarskie. 1936. N 5.
20. Kryczyński M. L. Historia meczetu w Wilno. Wilno, 1937.
21. Woronicz A. I. Przyczynek do historii meczetów w Polsce// Życie Tatarskie. 1937. N 12.
22. Bohdanowicz I. Przyczynek do monografii muzułmańskiej w Dobczycach// Zycie Tatarskie. 1936. N 5.
23. Konopacki M. Pod tatarskimi minaretami. Warszawa, 1972.
24. Jankowski Cz. Powiat oszmianski. Petersburg, 1896.
25. Bajraszewski M. Tatarzy słonimscy // życie Tatarskie. 1934. N 9.
26. Brykowski R. Tatarskie meczety w Rzeczypospolitej // Ochrona Zabytków. XLI. 1988. N 3.

| | |
|---|---|
| Абдэст | невялікае набажэнства, спраўляецца паміж святамі і знамянальнымі падзеямі. |
| Абу-Бекер | спадзвіжнік Мухамеда, знатны купец, адзін з першых прызнаў вучэнне прарока. Паводле паданняў, адзін з трох першых халіфаў. |
| Абу-Ханіф | заснавальнік аднаго з чатырох напрамкаў вучэння сунітаў, якое спавядалі і татары Беларусі, памёр у 767 годзе. |
| Агол | грамада, сход. |
| Азан | заклік да малітвы, набажэнства. |
| Ажурэйны байрам | свята. Па традыцыі святкуецца на 9-10-ы дзень першага луннага месяца, Мухарэма. Паводле падання, у гэты дзень жонка прарока Фаціма чакала вяртання з вайны сыноў Хусейма і Хасана. Але прыйшла трагічная вестка: сыны запнулі ў баі. У роспачы змяшала маці святочныя стравы. Так нарадзіўся мусульманскі звычай — у гэты дзень варыць рытуальную страву з дзевяці відаў фруктаў у рысе. |
| Алах | у старадаўніх бедуінаў вярхоўны бог пантэона шматлікіх сямейных багоў, духаў плямёнаў і родаў. У адрозненне ад апошніх канкрэтнага ўвасаблення (ідала) не меў. У ісламскім вучэнні — адзіны, вечны і бясконцы Уладар свету, Бог усёмагутны, літасцівы, міласэрны. |
| Алій | паводле вучэння шыітаў першы законны пераемнік прарока, халіф. Сапраўднымі ў шыітаў лічацца апісанні здзяйсненняў Мухамеда, складзеныя Аліем. Прыёмны сын Мухамеда з дзесяці год, потым яго зяць. |
| Амар | спадзвіжнік Мухамеда, прыняў іслам у 615 годзе. У сунітаў ушаноўваўся як адзін з пераемнікаў прарока, халіф. |
| Асман | паслядоўнік Мухамеда. |

Байрам — свята, цыкл з некалькіх дзён, прысвечана традыцыйным рытуалам: Ажурэйны байрам, Рамадан-байрам, Курбан-байрам і інш.

Вакуф — маёнтак, фальварак пры мячэці, сродкі ад якога ідуць на ўтрыманне прыхода.

Гужэль — буйное набажэнства, якое праводзіцца па пятніцах з выпадку свята ці іншай важнай падзеі.

Даджал — міфічная асоба, аналагічная антыхрысту, г. зн. д’ябал, антыпод Алаха, уладар аду. Ад у мусульман, як і рай, складаўся з сямі кругоў.

Джама — буйная мячэць, цэнтр прыхода (накшталт сабroom царквы). У Турцыі — мячэць, узведзеная па загадзе султана.

Джэміят — рэлігійная абшчына, існуючая на прынцыпах самакіравання.

Джэмазіл — пяты месяц луннага календара.

Джэмазір ахыр — шосты месяц луннага календара.

Джубба — рытуальнае ўбранства мулы, доўгая цёмна-зялёная ці чорная накідка з шырокімі рукавамі.

Дзервіш — жабрак, мусульманскі манах.

Залях — зварот-прамова перад малітвай, набажэнствам.

Зікр — малітва, паімавенне мусульманскі святых, прарока, халіфаў.

Зіль-каад — адзінаццаты месяц луннага календара.

Зіль-хадж — дванаццаты месяц луннага календара.

Іясенне — малітва над магілай продкаў у дзень свята Рамадан-байрама. Паходзіць ад пачатковых складоў першай і апошняй малітваў карана (іесін).

Іслам — адданасць богу. Сусветная рэлігія, якая склалася ў VII стагоддзі ў Аравіі. Карані ісламу ўзыходзяць да старажытных традыцый і вераванняў качэўнікаў-бедуінаў, у прыватнасці вучэння аб Алаху (гд.: Алах). Фарміраванне ісламу ў манатэістычны культ у значнай ступені было вызначана прапаведніцкай дзей-

Насцю Мухамеда, які абвясціў сябе пракрокам Алаха. Сутнасць ісламу вызначана ў пяці асноўных запаветах: няма бога акрамя Алаха, прарок божы — Мухамед; адпраўляць малітвы неабходна пяць разоў на дзень; абавязак прававерных — ахвяраваць на карысць бедных і жабракоў; патрэбна шанаваць пост у месяц Рамадан; паломніцтва (хадж) у Мекку.

Імам - прапаведнік ісламскага права. У краінах Усходу глава мусульманскага прыхода, мячэці.

Кааба - мусульманская святыня ў горадзе Мекка. Першапачаткова паганскае свяцілішча арабаў. Аскетычнага выгляду пабудова, у сярэдзіне якой каля сцен стаялі ідалы родавых і племянных багоў і духаў. Ва ўсходняй сцяне знаходзіцца замураваны чорны камень (магчыма, метэарыт) — аб'ект усеагульнага мусульманскага пакланення. На пачатку студзеня 630 года Мухамед на чале дзесяцітысячнага войска заняў Мекку, знішчыў паганскіх ідалаў Каабы і ўшанаваў пры гэтым чорны камень.

Кадзі - суддзя, духоўны мусульманскі сан.

Кібла - ніша ў сцяне ці невялікі прыруб (іншы раз падманныя дзверы), якія з'яўляюцца алтаром мячэці (гл.: Міхраб). Арыентавана ў бок Меккі. Першапачаткова алтар мусульманскіх храмаў меў арыентацыю на Іерусалім. У 623 годзе Мухамед, імкнучыся падкрэсліць самастойнасць ісламу і аўтарытэт яго святыняў, загадаў маліцца тварам не да Іерусаліма, а да Меккі.

Кілім - ваўняная дарожка зялёнага колеру, якой засцілалася падлога мячэцяў.

Калятар - асоба, якая адносіцца да гаспадаркі, што належыць мячэці альбо прыходу, і ўплачвае вызначаны мулой ці сходам татарскай грамады (аголам) падатак на ўтрыманне прыхода.

Каран - свяшчэнная кніга (пісанне) ісламу, складаецца з асобных вершаў (сур) і змяшчае асноўныя дагматы вучэння пра Алаха, пра-

рока Мухамеда, тлумачыць асноўныя запаветы ісламу, яго сістэму права, нормаў маралі і сумлення.

Курбан-байрам — свята, яго вытокі — у старажытных традыцыях ахвяравання свойскіх жывёл, звязана з паганскім культам качэўнікаў (курбан-ахвяра). У першы дзень свята, пасля набажэнства (намаза), каля мячэці ажыццяўлялася ахвяраванне каровы, каня альбо барана. Мяса дзялілася паміж прыхаджанамі, духоўнікамі і жабракамі.

Мячэць — культавая пабудова мусульман. Першая мячэць была ўзведзена Мухамедам ў Медзіне пасля 622 года. На архітэктуру мячэцяў аказала ўплыў архітэктура краін, дзе распаўсюдзіўся іслам (Візантыя, Егіпет, Іспанія, Турцыя, Іран, Сярэдняя Азія, Індыя). Аснову аб'ёмна-планіровачнага рашэння складалі абнесены галерэямі двор, рытуальнае памяшканне, перакрытае купалам, мінарэты. У планіроўцы мячэцяў знайшлі адлюстраванне рысы, уласцівыя храмам антычнасці і старажытных дзяржаў Усходняга Міжземнамор'я, — замкнуты двор, у глыбіні якога — культавае памяшканне з алтаром.

Медзіна — горад у Саудаўскай Аравіі, куды ў 622 годзе пераехаў Мухамед, атрымаўшы тут сацыяльную і палітычную падтрымку ў далейшым распаўсюджанні вучэння. Пасля смерці (8 чэрвеня 632 года) пахаваны тут, ва ўзведзенай ім мячэці.

Мекка — горад у Саудаўскай Аравіі, дзе знаходзіцца старажытная святыня ісламу — Кааба. Пасля заваявання Мухамедам у 630 годзе мекканцы прынялі іслам, і з таго часу горад становіцца рэлігійным цэнтрам мусульманскага свету.

Мінарэт — маяк, вежа пры мячэці, з якой муэдзін заклікаў на набажэнства.

Міхраба — гл.: Кібла. Упрыгожвалася разьбой, куфічнымі надпісамі. У мячэцях Беларусі па контуры нішы-міхрабы пісаліся па-арабску радкі з карана. Над міхрабой у рамным аздабленні —

імёны святых. Побач знаходзілася паліца для духоўных кніг, на падлозе — дыван з выявай славутых мячэцяў Усходу.

Міулюд — свята нараджэння Мухамеда, ці Новы год.

Мула — кіраўнік прыхода. Выбіраўся на сходзе грамады (атола) з адукаваных асоб, карыстаўся павагай і аўтарытэтам.

Мумібір — узвышэнне справа ад міхрабы, нашкалт царкоўнага амбона. Упрыгожвалася разьбой, мела навес на слупах, завершаны шпілем з зоркай і паўмесяцам. На прыступкі засцілалася зялёная ваўняная дарожка. Пасярэдзіне — дыван з ісламскай сімволікай.

Мізар — могілкі.

Мусульмане, мусульманін — з асмана-турэцкага «муслім»— адданы волі божай, той, хто спавядае іслам.

Муслінова — белая вуаль, якой закрывалася акно ў сцяне, падзяляючай мужчынскую і жаночую паловы.

Муфцій — духоўны ісламскі іерарх, які стаіць на чале правінцыі (муфціята). Назначаўся халіфам ці султанам. Татары Беларусі некаторы час мелі права выбіраць муфціяў на сваіх кангрэсах.

Мухамед — нарадзіўся 30 красавіка 571 года ў горадзе Мекка, памёр 8 чэрвеня 638 года, паводле падання, у адзін і той жа дзень па лунным календары. Пахаваны ў Медзіне. Сын купца, рана застаўся без бацькоў. Быў аддадзены на выхаванне бедуінам, служыў у мекканцаў пастухом. У 24 гады ажаніўся на багатай удаве і, пазбавіўшыся ад клопатаў пра хлеб надзённы, стаў цікавіцца пытаннямі рэлігіі. Ад нараджэння быў чалавекам уражлівым і эмацыянальным. Яркія вобразы бібліі, евангелля, талмуда і торы выклікалі жаданне растлумачыць вераванні ўласнага народа. У вобразах Ісуса, Месіі і Алаха згадваліся агульныя рысы. У гэты час у Аравіі шырока былі распаўсюджаны секты ханіфаў, ушанавальнікаў Алаха. У адну з такіх сект уступіў і Мухамед. Да традыцыйных паданняў пра Алаха Мухамед дадае вучэнне аб пакаранні (страш-

ным судзе і жыцці на тым свеце), сфарміраванае не без уплыву хрысціянскага, іудзейскага і некаторых паганскіх культаў.

Першапачаткова Мухамед вядзе прапаведніцкую дзейнасць у межах свайго роду, з 664 года пачынае выступаць з публічнымі пропаведдзямі. Напачатку новае вучэнне ўспрымаецца варожа (з-за пагроз страшнага суда), і невялікая грамада мусульман у 622 годзе пакідае Мекку і пераязджае ў Медзіну. дзе прарока ўспрынялі як праобраз Месіі. Тут Мухамед атрымоўвае палітычную І сацыяльную падтрымку. З 623 года паміж Медзінай і Меккай пачынаюцца ваенныя сутыкненні. У 623 і 630 гадах Мухамед двойчы прыходзіць з войскам у Мекку. Мекканцы прызнаюць іслам, і ён набывае панаванне ў Аравіі. Мухамед звяртаецца з заклікам да суседніх краін з прапановай прыняць іслам і плануе ваенны паход у Сірыю. Пасля смерці прарока яго пераемнікі Абу-Бекер, Амар і Асман яшчэ доўга змагаліся за ўкараненне ісламу ў Аравіі і распаўсюджанне яго ў іншых краінах.

Мухіры — элементы насценнага аздаблення мячэці. У Беларусі былі вядомы апраўленыя ў рамы пергаменты з вершамі карана, малітвы, імёны святых і пракокаў. У XIX — пачатку XX стагоддзя яны змяняюцца літаграфіямі з відамі славутых мячэцяў, атрыбутамі ісламскай сімволікі.

Мухарам — першы месяц лунңага календара.

Муэдзін — памочнік мулы. Звяртаўся да прыхаджан з заклікам на набажэнства (азан), зачытваў уступ да малітвы (залах), займаўся навучаннем дзяцей чытанню карана.

Намаз — набажэнства.

Раджаб — сёмы месяц луннага календара.

Рамадан — дзевяты месяц луннага календара, месяц посту.

Рамадан-байрам — свята пачатку месяца Рамадана.

Рэбі-уль-аувель — трэці месяц луннага календара.

Рэбі-уль-ахыр — чацвёрты месяц луннага календара.

Садага — традыцыйны звычай міласэрнасці.

Салят — малітва.

Сафар — другі месяц луннага календара.

Суны — легенды, паданні, сінонімы тэрміна «Хадзіс», паданне пра Мухамеда.

Суніты — мусульмане, якія прызнаюць законнымі пераемнікамі прарока легендарных халіфаў, Абу-Бекера, Амара і Асмана, і лічаць сапраўднымі толькі тыя паданні (суны) пра Мухамеда, якія былі складзеныя пры гэтых халіфах. Вучэнне сунітаў у сваю чаргу дзялілася на чатыры галіны. Да сунітаў адносіцца большасць мусульман свету, у тым ліку і татары Беларусі.

Таравіх — вячэрняе (начное) набажэнства.

Фетвы — дэкрэты і рэлігійныя распараджэнні духоўных іерархаў.

Фітрэ — падарунак муле ці муэдзіну ў дні свята.

Хаты» — казнадзержац, мула ці імам, які валодае адначасова і казной прыхода.

Хутбэ — малітва за халіфа, адпраўляемая штодзённа ў буйной мячэці-джаме.

Хадзіс — легенда, паданне пра Мухамеда (гл.: Суны).

Хадж — паломніцтва ў Мекку, тытул асобы, якая зрабіла паломніцва.

Хіджр — пераезд Мухамеда з Меккі ў Медзіну ў 622 г.

Чэлуны — невялікія круглыя дываны, падараваныя мячэці сваякамі памерлага. На іх пазначаны ініцыялы ці імя нябожчыка.

Шайбан — восьмы месяц луннага календара.

Шарыят — збор законаў ісламскага права.

Шаўваль — дзесяты месяц луннага календара.

Шэйх — духоўны іерарх, тытул, які паказвае ступень ісламскай вучонасці.

Шэлебі — ад турэцкага *шалаб* — бог, духоўны тытул,

| | |
|---|---|
| | якім адзначаліся асобы вялікай вучонасці (паэты, правазнаўцы, вучоныя, духоўнікі). У XVI-XVII стст. заменены грэкамоўным — эфендзі. |
| Шыіты | мусульмане Ірана, некаторых раёнаў Індыі і Бліжняга Усходу. Адзіным законным пераемнікам Мухамеда лічаць халіфа Алія (прыёмнага сына і зяця прарока) і артадаксальнымі лічаць хадзісы, узнікшыя пры ім. |
| Эфендзі | гл.: Шэлеб. |
| Ялмуза | печаныя пачастункі, якія прыносілі ў дні святаў у мячэць, на могілкі, узаемна даравaліся па звычаі міласэрнасці, а таксама сіротам і жабракам. |



Міхраб і мумібір мячэці Эль-Муайед у Каіры. XV ст.



Мінарэт Кутаб-мінар у Дэлі
і царква Ардшыгі ў Курце. Індыя



**Мячэць Ахмеда ў Канстанцінопалі. XVII ст.**



Мячэць Сулеймана ў Канстанцінопалі



Міхраб Кордаўскай мячэці. X ст.



Міхраб мячэці ў Альгамбры



Мухір з выявай мячэці Сулеймана ў Стамбуле. Іўе. 1979 г.

Мячэць Каіт-Бея ў Каіры. XV ст.

Татары каля Іўеўскай мячэці. Фота пач. XX ст.



Татары каля Іўеўскай мячэці. Фота пач. XX ст.



Унутраны выгляд Кордаўскай мячэці. VIII-X стст.



**Інтэр'ер мячэці ў Кордаве VIII—X стст.**



**Мухір з элементамі ісламскай сімволікі. Іўе. XX ст.**



Элементы маўрытанскіх арнаментаў у Альгамбры



Мухір-дыван. Іўе. XX ст.



**Мухір. Іўе. XX ст.**



Мухір-дыван з выявай мячэці ў Стамбуле. Іўе. XX ст.



**Маўзалей Тадж Магал у Агры. XVII ст.**



Праект мячэці ў Варшаве. Фота пач. XX ст.



Выгляд капэлы Вілья Вісіоса ў Кордаўскай мячэці. X ст



Татары Іўя. Фота пач. XX ст.



Мячэць у Мядзелі. 1930 г.



Мячэць у Рэйзах. 1886 г.



Татары-грабары з Глыбокага. Фота пач. XX ст.



Мячэць у Клецку. 1881 г.



**Курбан-байрам у Доўбучках.** Фота пач. ХХ ст.



Мячэць у Студзенцы.
Польшча. XIX ст.



Мячэць у Доўбучках. Фота пач. XX ст.

Татарская вуліца ў Слоніме. Паштоўка пач. XX ст.





Татары ў Слоніме. Фота пач. XX ст.



Паліца з духоўнымі кнігамі. Іўе



Мячэць у Канвалішках. XVIII ст.



Мячэць у Асмолаве. 1924—1925 гг.



Мячэць у Навагрудку. Фота пач. XX ст.



Мячэць у Лукішках.
XIX ст.



Мячэць у Іўі. Фота 1990 г.



Мячэць у Іўі, Мал. XIX ст.




**Мячэць у Доўбучках. Мал. XIX ст.**



**Мячэць у Вінкшнупе.
XVIII ст.**



Мячэць у Сарака Татарах. 1815 г.



Мячэць у Доўбучках. Фота 1970-х гадоў



Мячэць
у Канвалішках.
XVIII ст.



Мячэць у Міры. XVIII-XIX стст.



Мячэць у Доўбучках. XVIII ст.



Мячэць у Бахонках. 1900 г.



Мячэць у Лоўчыцах.
Фота пач. XX ст.



**Мячэць у Лоўчыцах. Сучасны стан**



Мячэць у Лоўчыцах. Сучасны стан



Мячэць у Навагрудку. 1858 г. Сучасны стан



Мячэць у Вінкшнупе.
Мал. XIX ст.



Мумібір.
Іўе



Слупавая галерэя.
Іўе



Дзверы. Доўбучкі

*1* — знак роду Абрагімовічаў, Аразовічаў, Чухаевічаў, Яхічаў і Радкевічаў, XVI ст.;
*2* — пячатка Азібека Салтана Астрынскага, 1530 г,; 3 — пячатка Цюрынскіх, 1540 г., *4, 5* — пячатка Уланаў Асанчуковічаў, XVI ст.; *6* — знак Ахмета Халецкага, 1548 г.; 7, *9* — пячаткі Катынскіх, 1563 і 1591 гг.; *8* — знак Сінчаковічаў, 1581 г.; *10* — герб Леліва з роду Адамовічаў;
*11* — знак Даўкевічаў, 1581 г.;
*12* — знак Ісмаіла Суліmановіча, 1591 г.; *13* — знак Хазбіевічаў Мурзаў Катынскіх, 1591 г.; *14* — герб Радван з роду Багушэвічаў; *15* — герб Азулевічаў; *16* — герб Юшынскіх; *17, 31* — пячаткі Найманаў, XVI ст.; *32* — пячаткі Скірмунтаў Мурзаў Найманскіх, 1773 г.; *33* — пячатка Каскевічаў, 1560-1600 гг.; *34* — пячатка Палтаржыцкіх, 1602 г; *35* — пячатка Палянскіх, 1604 г.; *36* — пячатка Міцкевічаў, 1560 г.; *37* — герб Сэрца Багдановічаў; *38* — герб Акшак Янчураў; *39* — герб Кеня Мухаў; *40* — герб Прасса Сулькевічаў; *41* — пячатка Дашкевічаў, 1575 г.;
*42*— герб Акмінскіх, 1849 г.;
*43* — пячатка Собаля Базарэвіча, 1571 г.; *44* — пячатка Салімбека Аразовіча, 1592 г.; *45* — пячатка Казіміра Шчасневіча, 1602-1610 гг.; *46* — пячатка Мадзалеўскага, 1665 г.; *47* — пячатка Талькоўскіх, 1774 г.; *48* — Герб Катлабаяў, XVI ст.



Тамгі плямёнаў: *1* — Менгу Цімура, хана Залатой Арды, 1266-1280 гг.; *2* — Дзяўлет Бярдзея, хана Залатой Арды, 1427-1428 гг.; 3 — Дзяўлет-Гірэя, хана крымскага, 1698-1713 гг.; *4* — клану Сірынаў у Крыме; 5 — племені Аргунаў з Кіргізіі; 6 — племені Аргунаў з Крыма; 7 — роду Ячлай з Крыма; *8* — дынастыі Гірэяў з Крыма; *9* — Уйшунаў з Залатой Арды (атрымана паводле легенды ад Чынгісхана); *10,*
*11*
ман; *12* — роду Садзір; *13* — роду Кара-Керыз; *14, 15* — роду Багамалаў; *16* — роду Серкеч; *17* — роду Балталу; *18* — кіргізскіх пляменаў Найман і Канград; *19* — кіргізскіх пляменаў Канград і Кірэй; *20* — племені Дулат; *21* — племені Канград з Залатой Арды (атрымана паводле легенды ад Чынгісхана); *22, 23* — кіргізскага племені Джалаір; *24*— кіргізскага племені Кірэй; *25* — племені Нагай Дольнай Арды



Мячэць з Доўбучак у экспазіцыйным сектары «Мястэчка»
Белдзяржмузея народнай архітэктуры і побыту




Помнік на могілках у Лоўчыцах



Помнік на могілках у Лоўчыцах



Помнік на могілках у Лоўчыцах



Помнік на могілках у Лоўчыцах



Магіла пастушка Кунтуса на могілках у Лоўчыцах



Могілкі ў Лоўчыцах

# Змест

**Научно-популярное издание**

ЛОКОТКО АЛЕКСАНДР ИВАНОВИЧ

**БЕРЕГ СТРАНСТВИЙ,
ИЛИ ОТКУДА В БЕЛАРУСИ МЕЧЕТИ**

*Минск. Издательство Навука і тэхніка*

На белорусском языке

**Навукова-папулярнае выданне**

ЛАПОТКА АЛЯКСАНДР ІВАНАВІЧ

**БЕРАГ ВАНДРАВАННЯЎ,
ЦІ АДКУЛЬ У БЕЛАРУСІ МЯЧЭЦІ**

Загадчык рэдакцыі Л. І. Пятрова
Рэдактар А. М. Садоўская
Мастак А. Е. Анкуда
Мастацкі рэдактар Л. М. Гоманаў
Тэхнічны рэдактар Т. В. Лецьен
Карэктар Г. І. Сергіенка

Здадзена ў набор 20.05.93. Падпісана ў друк 05.10.93. Фармат 70Х108 $^{1}/_{32}$. Папера газетная. Гарнітура літаратурная. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 4,20+2,10 укл. на мел. пап. Ум. фарб.-адб. 13,12. Ул.-выд. арк. 5,88. Тыраж 6000 экз. Зак. № 580. Цана 380 р.

Выдавецтва «Навука і тэхніка» Акадэміі навук Беларусі і Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. 220141. Мінск, Жодзінская, 18. ЛВ № 437. Друкарня імя Францыска Скарыны выдавецтва «Навука і тэхніка». 220141. Мінск, Жодзінская, 18.

У выхадных звестках цана ўказана 380 р.

Сапраўдная цана 1800 р.

Зак. 580